
Марыя ТАМЧУК →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Такой падзеі больш не пабачу →9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 17 (3337) Год LXV

Беласток, 26 красавік 2020 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Аляксей МАРОЗ

# На магілы продкаў


Фота Адама Паўлоўскага

Праваднаая нядзеля, а ў некаторых прыходах панядзелак або аўторак пасля яе, гэта быў час калі мы, праваслаўныя беларусы Беласточчыны, масава наведвалі магілы сваіх продкаў. У вельмі радасны велікодны перыяд, калі вакол пачыналі зелянець трава і лісце на дрэвах, прыгожа спявалі птушкі і ўжо даволі ярка свяціла сонца, сабраныя на супольных прыхадскіх або асобных вясковых могілках віталіся словамі «Хрыстос уваскрос» і адказвалі «Сапраўды ўваскрос». Пасля літургіі, у час якой чыталася галоўная малітва за ўпакаенне душ пахаваных на могілках, святары асвячалі магілы. У вялікіх прыходах асвячэнне пачыналася з самай раніцы. Сабраныя каля прыбраных магіл маліліся таксама самі і запальвалі зніччы. У правадную нядзелю была добрая нагода спаткаць на могілках сваякоў і сяброў, якіх даўно мы не сустракалі і паразмаўляць з імі. Пішучы артыкул, не ведаю, якія будуць указанні ўрада наконт наведвання магіл у час сёлетняй правадной нядзелі. Хутчэй за ўсё ўваход на прыхадскія могілкі індывідуальных асоб будзе моцна абмежаваны, згодна з абавязваючымі цяпер указаннямі, паколькі ідзе змаганне з пандэміяй каранавіруса і ёсць намаганні як мага найбольш абмежаваць распаўсюджванне каранавіруса і смерць яго ахвяр.

Да Свята-Узнясенскага прыхода ў Новаберазове належаць зараз жыхары дзесяці вёсак. У мінулым у прыходзе жыло многа людзей і парафіяльныя могілкі, якія былі распаложаны ў розных месцах, хутка запаўняліся нябожчыкамі. Цяперашнія і старэйшыя могілкі распаложаны амаль у палове дарогі паміж Новаберазовам (гістарычнае названне Новае Беразова) і ўскраінай Гайнаўкі. Цяперашнія могілкі, на якіх пахаванні адбываюцца з 1925 года, распасціраюцца на вялікай тэрыторыі, але таксама хутка запаўняюцца пакойнікамі. Па-суседску ляжаць старэйшыя могілкі, на якіх пахавіны пачаліся ў 1859 годзе і займалі яны падобную плошчу. Каля добра захаваных магіл там пахаваных таксама спатыкаюцца іх нашчадкі і моляцца за ўпакаенне душ сваіх продкаў, а святар надалей асвячае там магілы. Трэція, яшчэ старэйшыя могілкі, знаходзіліся прыблізна ў палове дарогі паміж Новаберазовам і Чыжыкамі і былі заснаваныя ў 1771 годзе. На іх у 1840 годзе была збудавана драўляная Свята-Праабражэнская царква, якая зараз знаходзіцца на сучасных могілках. Нядаўна, пад наглядам настаяцеля Свята-Узнясенскага прыхода ў Новаберазове протаіерэя Яна Казімірука Свята-Праабражэнская царква была грунтоўна і акуратна адрамантавана. Звесткі пра найстарэйшыя могілкі ў Новым Беразове паяўляюцца ў 1727 годзе. Паводле іх, на агароджаных парканам могілках знаходзілася драўляная царква. Лічыцца, што могілкі распаложаны былі ў самой вёсцы, на месцы, дзе зараз знаходзіцца прыхадская мураваная царква Узнясення Гасподняга, збудаваная ў 1873 годзе. Жыхар Новаберазова раней пераказваў аповед сваіх продкаў, што на месцы будовы муравана царквы работнікі знаходзілі людскія косці. Такую інфармацыю я прачытаў таксама ў архіўнай крыніцы. Каля драўлянай царквы Іаана Багаслова, якой будова датуецца 1771 годам, знаходзяцца магілы святароў і матушак, якія служылі ў Новаберазоўскім прыходзе. Сярод іх ёсць магіла мітрафорнага протаіерэя Юліяна Клачкоўскага, які многа зрабіў для праваслаўнага прыхода ў Новым Беразове. Настаяцель Ян Казімірук удакладніў, што ёсць планы аднавіць помнік над магілай айца Юліяна Клачкоўскага і выдаць буклет аб яго актыўнай дзейнасці. Мне з дзяцінства вельмі добра запамяталася асоба шматгадовага настаяцеля Новаберазоўскага прыхода мітрафорнага протаіерэя Сяргея Стальбоўскага, наўскос ад якога я жыў і статыкаў яго па-за багаслужбамі. Памёр ён у дзевяностых гадах, але па волі сям'і пахаваны быў з матушкай каля царквы Усіх святых на могілках у Гайнаўцы.

У час маёй вучобы ў пачатковай школе на могілках заснаваных у 1771 годзе паміж Новаберазовам і Чыжыкамі знаходзіліся яшчэ велізарныя драўляныя крыжы. У мінулым крыжы рабіліся такімі высачэзнымі, каб можна было іх многа разоў падрэзваць знізу і ўкопваць нанова, калі ў зямлі нішчэлі. Так рабіў мой дзядуля Мікіта з крыжам пастаўленым каля магілы маіх продкаў на могілках заснаваных у 1859 годзе. Здымкі высокіх крыжоў на могілках, распалажаных у напрамку Чыжык, рабіў я яшчэ ў пачатку XXI стагоддзя, але ўжо магілы каля іх тады былі ледзь заўважнымі і зарослымі травой. Відаць, не было ўжо нашчадкаў, якія маглі б даглядаць магілы сваіх продкаў. Толькі здалёк вызіліся крыжы і дрэвы як сведкі гісторыі Новаберазоўскага прыхода. Насупраць даўніх могілак знаходзіўся панадворак і дом маіх сяброў. Калі мы, будучы дзяцьмі, уваходзілі на старыя могілкі, на якіх траву выпасвалі каровамі і авечкамі, страшнавата рабілася ад свядомасці, што пад намі могуць быць пахаваны людзі. Сябры, якія жылі насупраць могілак, гаварылі, што яны ўжо прывыклі і не апасаюцца, што можа там нешта іх спалохаць. Выпасваючы траву, мясцовыя людзі спрычыняліся да таго, што могілкі не зарасталі кустамі і дрэвамі, карэнне якіх разрасталася б углыб зямлі і магло б нішчыць месцы пахаванняў.

Адзін участак нашага поля, на якім мой бацька садзіў бульбу і сеяў збожжа, даходзіў да дарогі, за якой адразу распасціраліся прыхадскія могілкі, заснаваныя ў 1859 годзе. У час майго дзяцінства расло там многа дрэў і кустоў і ў мяне было тады параўнанне з гэтымі намнога старэйшымі могілкамі, на якіх пасвіліся каровы і авечкі. На могілках заснаваных у 1859 годзе было яшчэ многа магіл, якімі апекаваліся нашчадкі там пахаваных. Аднак у засені дрэў і кустоў драўляныя крыжы хутка нішчэлі. Засталіся толькі даўнія прыгожа аздобленыя жалезныя і каменныя крыжы. Пазней з дапамогай вонкавых сродкаў, дзякуючы актыўнасці святароў, прыхаджан і іншых асоб могілкі былі расчышчаны з кустоў і часткі дрэў. Прыбіранне магіл і часткі тэрыторыі прадаўжаецца і ў час правадной нядзелі і іншых свят, калі служылася літургія ў царкве на могілках. Па просьбе прыхаджан святар надалей асвячаў магілы на старэйшых могілках.

У час майго дзяцінства магілы на цяперашніх могілках займалі можа крыху больш чым палову вялікай ужо тады агароджанай сеткай плошчы. Зараз свабодная для паховінаў прыхаджан засталася толькі паўднёвая частка могілак, хаця, канешне, і ў іх сярэдзіне ёсць на агароджаных участках месцы для паховінаў. Апошнім часам і раней на могілках высякалі таўшчэзныя дрэвы, паколькі голле магло пашкодзіць помнікі, а карэнне — знішчыць магілы. Цяпер будуць запаўняцца таксама гэтыя свабодныя месцы. У маім родным Новаберазове і ў суседніх прыхадскіх сёлах памерла на працягу апошніх некалькіх гадоў многа людзей.

— Чаму апошнім часам памірае так многа людзей? Паміраюць асобы, якія дажылі глыбокай старасці, але і людзі ў нашым узросце і малодшыя ад нас асобы, — паставіла мне пытанне жанчына з Новаберазова сёлета перад Раджаством Хрыстовым.

Тады ўжо разгортвалася пандэмія каранавіруса ў Кітаі, але інфармацыя аб трагедыі, якая спасцігла спачатку кітайцаў, яшчэ не распаўсюджвалася ні ў кітайскіх, ні ў сусветных СМІ. Зараз некаторыя задумваюцца, ці шматлікія паховіны найстарэйшых асоб у кароткім часе не прадвяшчалі трагедыі, якая спасцігла свет. Ужо цяпер у Польшчы паховіны адбываюцца ў прысутнасці абмежаваных да 5 асоб сямейнікаў. Я ўспомніў смерць і паховіны сваіх блізкіх і жыхароў Новаберазова, якія адбываліся яшчэ ў звычайных умовах. Мой бацька Грыгорый памёр звыш года назад у 88-гадовым узросце. Мой хросны бацька і сябра майго бацькі, Уладзімір, памёр каля дзесяці

чытайце ☞ 11



# Пра каранцін, страх і перамогу

З гледзішча цяперашніх пакаленняў у свеце зараз адбываецца сур'ёзная катастрофа. З гледзішча вякоў і тысячагоддзяў гісторыі існавання чалавека на Зямлі — нічога надзвычайнага. Перыядычна ў розныя часы ў свеце адбываліся эпідэміі і пандэміі аналагічнага кшталту, альбо намнога жахлівейшыя пошасці ці ваенныя навалы. Беларуская зямля ў час дасягальнай нам для вывучэння гісторыі за мінулае тысячагоддзе напакутавалася так, што, здаецца, ужо нічога не павінна баяцца. Але ж апошнія 65 з хвосцікам гадоў (бяру гэты адлік не з часу фармальнага сканчэння Другой сусветнай вайны, а з 1953 года, калі здох крывавы Сталін) адносна мірнага існавання прывучылі людзей да спакою і пэўнага матэрыяльнага камфорту. Зараз жа гэтыя спакой і камфорт становяцца хісткімі, „падвісаюць", а бліжэйшая будучыня становіцца трывожнай і цьмянай. І гэты стан, як мінімум, няпэўнасці, разгубленасці авалодвае бальшынёй грамадства.

Зараз урады розных дзяржаў шукаюць выйсця ў дыяпазоне паміж жорсткім каранцінам і нават амаль непрызнаннем маштабнасці пандэміі каранавіруса. Некаторыя параўноўваюць цяперашнюю сітуацыю з вайной. Асабіста я з такім параўнаннем не згодзен. Вельмі добра сказаў на гэты конт днямі вядомы расейскі пісьменнік Віктар Ерафееў, які назваў цяперашнія дзеянні змагання з заражэннем хваробаю антывайной. Бо ў час вайны звычайны грамадзянін становіцца салдатам, а ў час такой антывайны салдат павінен рабіцца грамадзянінам. І вось гэта ключавы момант здольнасці ўрадаў кожнай канкрэтнай краіны і іх розных структур, у тым ліку і сілавых, на такую „антываенную" мабілізацыю.

Дэмакратычныя краіны прымяняюць розныя мадэлі каранціну — ад мяккага да дастаткова жорсткага. Для ўсіх — гэта цяжкі эксперымент з адмоўнымі наступствамі для эканомікі і цяжкапрадказальнасцю палітычнага развіцця. Кіраўнікі ж аўтарытарных і таталітарных рэжымаў імкнуцца не прызнаваць сапраўднай небяспекі эпідэміі альбо ў значнай ступені яе заніжаць. Прыкладам, у Туркменістане слова „каранавірус" забаронена ўвогуле. Падобная сітуацыя і ў Таджыкістане. А кіраўнік беларускай дзяржавы публічна заявіў, што ў нашай краіне аніводны чалавек не памёр ад заражэння каранавірусам і нават паабяцаў, што не памрэ. Некаторыя схільныя думаць, што начальнік дзяржавы не ўводзячы цвёрдых каранцінных мераў, думае найперш пра эканоміку і не звяртае ўвагі на здароўе і пагрозу жыццю людзей.

Але, мяркую, справа тут у іншым. Упершыню ў многіх аўтарытарных кіраўнікоў постсавецкіх краін з'явіўся сур'ёзны апанент. Не разгромленая і расцярушаная праз гады апазіцыя, не ўяўныя замежныя сілы, якія ўвесь час пагражаюць „стабільнасці развіцця", а дробны, але такі страшны каранавірус, пахаджанне і прырода якога дакладна пакуль так і не ўстаноўлены. І калі народ пачне баяцца гэтага віруса больш, чым вярхоўнага ўладара, гэта стане сур'ёзнай пагрозай, а можа і магутнейшым ударам для такіх рэжымаў. Бо страх перад большай пагрозай натуральна зніжае страх паднявольнага народа перад яшчэ ўчора ўсемагутным уладаром, які сёння ў разгубленасці, а заўтра сам у жаху перад рэчаіснасцю пошасці. Таму і абрана такая тактыка непрызнання небачнага, але на гэты раз сапраўды рэальнага „ворага". А з іншага боку алагічная рыторыка — „ураг будзет разбіт — победа будзет за намі", „мы за цэной не пастаім" і таму падобнае. Таму і рыхтуецца выкат баявой тэхнікі на парад 9 мая ў цэнтры беларускай сталіцы і маршыраванне салдат. Таму і не спыняецца футбол.

Цяперашняя пандэмія смяротнага віруса — гэта праверка чалавецтва не толькі, і нават не столькі на фізічную выжывальнасць і ўстойлівасць. Гэта выпрабаванне найперш на маральную вытрываласць і духоўную спеласць — як кожнага асобнага чалавека, так і нацыянальных супольнасцей і цэлых краін. Асаблівыя перажыванні маем у гэты велікодны перыяд, калі ўпершыню ў жыцці не можам як належыць наведаць набажэнстваў у храмах, традыцыйна паехаць да бацькоў ці іншых родных, сустрэцца і адсвяткаваць з сябрамі найвялікшы цуд Уваскрэсення Хрыстова. Але ўваскрэслы Збаўца зноў дае прыклад перамогі Жыцця над смерцю і паказвае, што за цемрай абавязкова надыдзе Святло.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Палец у кароне

Калі паўната часу вызначаецца трыма вымярэннямі: мінулым, сучасным і будучыняй, ці жылі мы, сучасныя людзьмі, яго паўнатой? Толькі што значыць паўнавартасна жыць? Ці азначае: жыць лепш?! Разумней, больш дастойна, больш гарманічна?

Існаванне, і я маю на ўвазе магчымае яго калектыўнае выпраменьванне, арыентаванае выключна на будучыню. Антраполагі далі б прыклад карэнных інуітаў, арктычнага народа, — эскімосаў. Толькі поўная ўвага да будучыні ва ўмовах жорсткага клімату і пастаяннага дэфіцыту прадуктаў харчавання дазваляе ім перажыць наступную зіму. І выжыць наогул. Такім чынам, яны павінны ахвяраваць цяперашняе будучыні, назапашваючы харчы, паказваючы пры гэтым вялікую асцярожнасць і талковасць пры прыняцці рашэнняў. Яны літаральна жывуць заўтрашнім днём, але за кошт сучаснасці, у якой заўсёды дасягаецца цывілізацыйны прагрэс. Ён магчыма толькі тут і зараз. Ніколі раней, ніколі пазней. Гэта не значыць, што існаванне, арыентаванае на будучыню, — гэта толькі сфера прымітыўных культур. Цывілізаваны свет іх ведае. Такое стаўленне характарызуе постапакаліптычныя грамадствы, абцяжараныя траўмамі крывавых войнаў і буйных катаклізмаў. Гэта звязана з тым, што на руінах новай сучаснасці можна пабудаваць толькі будучыню. Іншай альтэрнатывы няма — можна адмовіцца ад надзеі, страціўшы сябе ў апатыі і павольнай агоніі. Ці арыентуючыся цалкам на заўтра. Толькі надзея на будучыню ніколі не аднаўляецца з нуля. Сярод руін можна знайсці бясцэнныя артэфакты мінулага, фундаментальныя ідэі, архітэктурныя дэталі чалавечай прыроды, якія, калі разам сабраны па-новаму, раскрываюць прыгажосць чалавечага розуму — столькі ж кранальныя па сваёй складанасці, колькі турбуючыя схільнасцю да нарцысавага гонару. А той, з часам, прысвойвае сабе будучыню. Таму што мы ўсё яшчэ перажываем тое самае — мы ўсё яшчэ падымаемся і падаем. Колькі разоў можна?! Толькі на цяперашнясці заснавана культура першапачатковага племені піраху, карэннага народа Амазоніі, якія да гэтага часу жывуць дзякуючы паляванню і збіранню. Хоць у іх мове ёсць простыя граматычныя пабудовы мінулых і будучых часоў, дамінуючай у іх структуры з'яўляецца сучасны рэжым. Гэта нават адлюстравана ў іх лікавай сістэме — ёсць „адно" і „два", у той час як усё вышэй за гэтыя дзве лікавыя велічыні ўспрымаюцца імі як абстрактнае і нязначнае „мноства". Таму яны адносяцца аднолькава да мінулага альбо будучыні. Такім чынам, гэта існаванне літаральна ўкараняецца ў сучаснасці. Даследчык культуры племя піраха Даніэль Эверэт, лінгвіст і місіянер, які выдатна зведаў іх мову і планаваў перакласці на яе Біблію, каб перавесці гэты народ у хрысціянства, ён піша пра іх: „(...) яны не плануюць больш чым на адзін дзень наперад, яны не кажуць пра далёкую будучыню ці мінулае — яны, здаецца, сканцэнтраваны галоўным чынам на сёння". Такое жыццё, на думку Эверэта, магчыма дзякуючы даволі прыязнай абстаноўцы і, перш за ўсё, пастаянна даступнай ежы. Піраха ідзе галодным глыбока ў джунглі, голы і бяззбройны, і вяртаецца цэлы і сыты. Таму будучыня гэтых людзей не адзначана ніякім страхам. І найменш у іх страху за жыццё пасля смерці. Цяперашні час выключыў са свайго існавання неабходнасць у любой рэлігійнасці, а значыць, разважанні над вечнасцю. Таксама іх траўма не прадбачваецца ў мінулым, таму што нават калі яны перажываюць гэта, праз два дні яна знікае ў іх свядомасці. У той жа час іх псіхічны стан не мае неўралагічнага дэфіцыту, а іх інтэлект не адрозніваецца ад сярэдняга на зямным шары. Таксама піраха проста шчаслівыя. Але толькі тут і цяпер, па-за межамі будучыні і мінулага. Цікава, што Эверэт, захоплены імі, пераацаніў сваё жыццё настолькі, што стаў заўзятым атэістам. Прыклад піраха паказвае, што магчыма існаванне, арыентаванае на сучаснасць. Апошняе паўстагоддзе заходняга спажывецтва, бясклапотнай прагнасці да „цяпер", нягледзячы на калектыўны досвед мінулага і, нягледзячы на індывідуальныя трывогі будучыні, з'яўляецца доказам гэтага. Практычна ўсе заходнія грамады жылі з дня на дзень. Дзякуючы практычна неабмежаванаму доступу да ежы, да працы, да пастаяннага пашырэння сацыяльнай апекі і, нарэшце, доступ да лёгкіх крэдытаў, якія замарозілі пакаленні ў „цяпер", большасць з нас адвярнулася ад мінулага, але таксама не глядзела ў будучыню. Аднак мінулае, якое мы часта недаацэньвалі, зноў паказала нам сярэдні палец. У кароне віруса.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Памінанне і праміНанне

Суму штораз больш, радасці штораз менш. І не гутарка тут пра нашу злабадзённую, эпідэмічную рэчаіснасць, а пра агульначалавечае адчуванне духу. З усіх куткоў нашага Падляшша адчуваецца і наглядаецца суцішэнне чалавечага дыхання ў яго рэальным вымярэнні. Няма каму радавацца Вербнай нядзелі, не гаварыўшы пра традыцыйнае сцябанне вербачкай сваіх родных, не ўзгадваючы ўжо пра дзіцячыя гульні з лазою. І нават у Божую нядзельку ў пушчанскай царкоўцы зрэдку зараз збіраецца звыш пяці прыхаджан, якія ў змозе без аніякіх клопатаў самі дабрацца на багаслужбу. Таму пра парушэнне антыкаранавірусных законаў, калі ідзе пра максімальную колькасць пяці вернікаў у храме, тут увогуле няма мовы. Не каранавірус, але звычайная смерць-касуха гадамі занадзілася ўжо туды і бязлітасна аж да зямлі косіць апошнія чалавечыя сляды. Таму найчасцей апрача шчабятання птушак не пачуеш на вуліцах нашых вёсак радаснай чалавечай гамонкі. Ды аніякага чалавечага слова амаль не чуваць у сельскай прасторы. Без сугучнасці мелодыі гукаў чалавечай, звярынай, птушынай моў і сімфоніі пахаў акружаючага прыроднага надвор'я нельга, на жаль, зараз гаварыць пра нейкую гармантычнасць чалавечага сужыцця. Мо таму і птушкі гэта адчуваюць і са значна большай зацятасцю і галоснасцю выспеўваюць свае гімны жыцця на лясных могілках, каб там аддаць пашану адышоўшым у вечнасць іх чалавечым, зямным спадарожнікам. Ці ж варта тады высякаць усе кусты і дрэвы на могілках, на галінах якіх не зможа прысесці вялікае сэрца ў малым целе, каб трапяткой і дрыжачай мелодыяй сагрэць каменныя пліты?.. А калі і нас не будзе, а могуць быць забароны так як і цяпер наконт наведвання магіл блізкіх і родных, то хто як не птушкі зняўсуць наш пасыл памяці і сардэчнасці на дзедаўскія і бацькоўскія магілы? Бо яны будуць ляцець свабодна з нашымі думкамі і ўспамінамі на тыя магілы, якія ахінаем заслонамі нашай памяці. Вось зараз у перыяд Праваднай нядзелі і веснавога памінання адышоўшых родных і блізкіх, каравірусная эпідэмія з чартоўскай усмешкай стаіць перашкодай на абрадах памяці, што мацнейшымі з'яўляюцца за самую смерць. Памінанне і праміНанне — двухполюснае аб'яднанне чалавечаслоўя. Перад маімі вачыма быццам у кіно ўсплываюць кадры кінастужкі, якія плывуць назад сваімі вобразамі людной вёскі, занятай штодзённасцю і нядзельна-святочным адпачынкам. Затым ідуць карціны персанажаў — аднавяскоўцаў з іхнімі характэрнымі ўсмешкамі, вопраткай, галасамі. А мо то я памаленьку пачынаю вар'яцець ад усёй гэтай сітуацыі, калі ў маёй галаве пачынаюць гаварыць галасы бліжэйшых ці далейшых суседзяў? Менавіта гэтай чалавечай гутаркі проста аж да роспачы так балюча не хапае ў рэальнасці, калі выглядваю свае вочы ў пошуках чалавека на маёй, вясковай вуліцы-бруканцы. Затое прыходзіцца ўслухоўвацца ў штораз большыя вятры, якія сваім енкам наводзяць нейкі страх, сум і бяссонніцу. Відаць, палюбілі яны такія куткі свету, дзе могуць гуляць сябе ўдоваль паміж пустуючых мясцін і сумных крыжоў, на якіх няма свежых ручнікоў ці лентаў, завешаных працавітымі жаночымі рукамі ў перадвелікодны перыяд. Вятры, а мо чартоўскія служкі, нясуць толькі пясок і абвяшчаюць, што засуха ўжо не за парогам, а ў рэальнасці — цяпер і зараз. Пра тое і пайшлі размовы ўсіх тых, хто хоць крыху яшчэ корпаецца ў зямлі. Зямля і людзі заносяць толькі адно благанне — вады, вады, вады. А тут з самога пачатку вясны, пасля бясснежнай зімы вады столькі, што кот наплакаў. Зацягнутыя, штоночныя прымаразкі высушылі зямлю, якая стала быццам порах, а не маці-карміцелька. Не пакідаюць сумневу і навукоўцы. Засуха, спёка і неўраджай гэта не прывід, але чарговая рэальнасць, якая можа мецьмесца ў бягучым годзе. Затым некаторыя нават не скрываюць, але і перасцерагаюць, што многім і голад можа стаць сябрам у нядолі. Так дрэнных навін не было чутна здаўна.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Актуальна чытаю Біблію на беларускай мове

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Я проста хацела быць настаўніцай. А сустрэўшы ў сваім жыцці цудоўныя настаўніцы беларускай мовы ў асобах спадарынь Тамары Русачык, Аляксандры Гаворка ці Зіны Дэмянюк, гэтае жаданне споўнілася.

Дзве першыя былі бадай адзінымі вясковымі настаўніцамі з вышэйшай адукацыяй. Яны так цудоўна расказвалі пра сталіцу, якая ў гэтыя часы была даступна толькі падчас школьных экскурсій. І мне такая будучыня вельмі спадабалася. А калі чалавеку на нечым моцна залежыць, ён да гэтага імкнецца. І мне пашанцавала вучыцца ў Варшаве і пасля стаць настаўніцай.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Сярод тых, з якімі мне давялося супрацоўнічаць як вучаніцы — гэта спадарыня Тамара Русачык, як маці маіх сыноў — гэта Аліна Ваўранюк, як сяброўцы — гэта Галіна Трашчотка, і як дырэктару школы — гэта наша настаўніца Анна Франкоўская.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Зразумела, што супрацоўнічаю. Мне знаёмыя ўсе настаўнікі беларускай мовы на Беласточчыне, хаця некаторыя з іх вельмі ганарлівыя і пэўна гэтага не пацвердзяць.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— На гэты момант наш гмінны самаўрад у Орлі, Цэнтр беларускай культуры і АБ-БА.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Так, гэта праекты рэалізаваныя няўрадавымі арганізацыямі пад кіраўніцтвам настаўнікаў і бацькоў. Кожны год у нас нешта новае і цікавае.

Зладзілі ўжо тэатральныя пастаноўкі «Рэкруты» і «Светлая нядзеля». Я, як дырэктар, даю падтрымку кожнай ініцыятыве, якая развівае здольнасці вучняў.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— На сённяшні дзень не ўмею вылучыць.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Зразумела, што так. Без іх дазволу і падтрымкі мы нічога не ў змозе зрабіць.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Складанасць таму, што не ўсім хочацца дабаўляць абавязкаў сваім дзецям і таму ў нас мала навучэнцаў.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**




**Марыя ТАМЧУК** закончыла Пачатковую школу ў Малінніках, далей вучылася ў Бельскім белліцэі, пасля якога паступіла на Аддзяленне прыкладной лінгвістыкі Варшаўскага ўніверсітэта, дзе закончыла беларускую і рускую філалогіі. Дадаткова закончыла паслядыпломныя курсы па некалькіх прадметах. У школе пачала працаваць будучы яшчэ студэнткай, калі стала настаўніцай рускай мовы ў ПШ № 103 у Варшаве. Пасля вяртання на Беласточчыну найперш працавала ў Пачатковай школе ў Малінніках настаўніцай у дашкольных аддзяленнях, а пасля перайшла на працу ў школу ў Орлі. Спачатку працавала настаўніцай беларускай мовы і іншых прадметаў. З 2011 стала дырэктарам школы ў Орлі, якой кіруе па сённяшні дзень. Жыве ў царкоўным шлюбе з мужам у Бельску-Падляшскім. У іх двое дарослых сыноў.

— Трэба планаваць так, каб паспець зрэалізаваць праграму, пры гэтым не замучыць вучняў і даць ім многа задавальнення з заняткаў. А свае асабістыя амбіцыі пакінуць у прыватнай сферы.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— Паколькі я цяпер неактыўная настаўніца роднай мовы, а раней працавала ў пачатковых класах, дык, на жаль, няма чым пахваліцца.

**— Ці паводле Вас падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— На жаль не ўсе. Але наракаць нельга. Пакуль не забярэмся за рэдагаванне такіх, якія нам будуць адпаведныя, самыя наракання нічога не дадуць.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Падручнік гэта прылада працы, якой мы павінны ўмела карыстацца, а не выяўляць да яго пачуцці.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Міра Лукша.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Гэта Біблія на беларускай мове.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Рэгулярна звыш сарака гадоў чытаю «Ніву».

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Усе цікавыя ў залежнасці ад узросту ўдзельніка. А ў маім даволі доўгім жыцці было ўжо іх некалькі: дэкламатарскі конкурс, студэнцкія атрасіны, беларускі навагодні баль у Палацы культуры ў Варшаве, вясковыя забавы пад музыку «Грамады», юбілеі «Нівы», Дні Волі і юбілеі нашых «белавежцаў».

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Вельмі часта, а найбольш цікава гэта атрымліваецца па электроннай сувязі.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Пра такія не варта нагадваць.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— На гэты момант адсутнасць дзяцей у школе. Гэта жудаснае адчуванне, нагадвае жалобу.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Кожны чалавек нечым вядомы. Я ганаруся кожным сумленным чалавекам, з якім мне давялося працаваць. На жаль, не кожны вядомы выпускнік памятае сваіх першых настаўнікаў.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Як кожны старанны працаўнік, я таксама атрымліваю грашовыя ўзнагароды. Яны напэўна важныя, але мяне асабіста найбольш матывуюць давер улады і бацькоў.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Зразуменне і падтрымка сямейнікаў. Кожны новы дзень, калі ў добрым здароўі і настроі я выходжу на працу, а там сустракаюць мяне ўсмешкі дзяцей і добразычлівасць супрацоўнікаў.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Гэта ўрокі ў першым класе, у якім усе вучні вывучалі родную мову.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Пагоня.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Гэта ў многім залежыць ад нас, настаўнікаў, ці нашы дзеянні будуць дастатковымі, каб тоеснасці не заглушыла нешта больш атракцыйнае маладому пакаленню.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Хто лягчэй можа перанесці каранавірус

Уладальнікі хатніх жывёл, у прыватнасці, катоў і сабак, у большасці выпадкаў лягчэй альбо зусім бессімптомна пераносяць каранавірус COVID-19. Такую заяву зрабіла польская доктарка Сабіна Алекса-Кондар, якая працуе ў адной з клінік Мадрыда. Меркаванне эксперта заснавана на назіранні за групай са ста пацыентаў, інфіцыраваных каранавірусам. Лекарка выказала здагадку, што з-за пастаяннага кантакту з поўсцю, слінай, а таксама неабходнасцю прыбіраць спаражненні гадаванцаў, імунітэт іх гаспадароў больш устойлівы да розных патагенаў. «Гэтае пытанне патрабуе далейшага вывучэння, але ёсць меркаванне, што тут мы можам мець справу з больш высокім імунітэтам з-за кантакту з каранавірусамі, спецыфічнымі для хатніх жывёл, і больш эфектыўна працуючай імуннай сістэмай», — адзначае ўрач. Акрамя таго яна адзначыла, што такая тэндэнцыя адзначаецца і сярод медыкаў. У прыватнасці, сярод тых, хто дома трымае катоў, менш за ўсё інфіцыраваных, тады як больш заражаюцца медыкі, у якіх няма хатніх гадаванцаў.

Адна з тэорый падвышанай устойлівасці аматараў пушысцікаў да небяспечнай хваробы складаецца ў крыжаванай рэакцыі. «Вядома, што ў катоў ёсць форма кацінага каранавіруса, якая не заражае людзей. Таму магчыма, што людзі, якія маюць цесны штодзённы кантакт з катом-носьбітам, могуць мець антыцелы да кацiных вірусаў. І гэтыя антыцелы могуць таксама знішчаць вірус чалавека. Гэта называецца крыжаванай рэакцыяй і існуе ў прыродзе. Вядома, каб пацвердзіць мае здагадкі, спатрэбяцца паглыбленыя даследаванні і статыстыка», — адзначыла ўрач.

Вірусолаг Надзея Жалобак распавяла парталу «MedOboz», што падобныя здагадкі цалкам рэальныя. «У кнізе Джарэда Даймандa „Ружжо, мікробы і сталь" апісаны шматлікія сведчанні, якія пацвярджаюць меркаванне аб тым, што еўрапейцы больш устойлівыя да вірусаў, таму што ўтрымлівалі сваіх жывёл у дамах, у якіх жылі самі. Узаемны цесны кантакт забяспечваў паступовую адаптацыю людзей да тых вірусаў, якія пераносяць жывёлы, і наадварот. І калі еўрапейцы захаплівалі Лацінскую Амерыку і прывозілі туды сваіх хатніх гадаванцаў, высокая смяротнасць мясцовага насельніцтва ад новых інфекцый была абумоўленая тым, што яны не былі адаптаваныя да прывезеных вірусаў», — распавяла эксперткa.

Медыкі адзначаюць, што штодзённыя зносіны з хатнімі гадаванцамі (катамі, сабакамі, птушкамі, рыбамі і г.д.) і клопат за імі стымулююць умацаванне імунітэту чалавека. У прыватнасці, таму спрыяе пастаянны кантакт з поўсцю, пёрамі, слінай і мікраарганізмамі, якія насяляюць арганізмы жывёл. Больш за тое, тыя людзі, якія жывуць у кампаніі з пушысцікамі, якія патрабуюць рэгулярнага выгулу, пастаянна атрымліваюць «порцыю» неабходнай для больш моцнага імунітэту фізічнай актыўнасці (яшчэ і на свежым паветры), што таксама ўносіць сваю лепту ў фарміраванне надзейных ахоўных сіл арганізма.

(лук)

Ніва сардэчна дзякуе ўсім нашым Чатачам якія павіншавалі нас з Вялікоднымі святамі!



Фота Адама Паўлоўскага

# На алёсах у Масеве

**Летам 1980 года неяк папала з абласной нарады завярнуць у вёску Грынкі Свіслацкага раёна. Тут прайшло маё дзяцінства, тут я вучыўся ў школе, а летам разам з калгаснікамі працаваў на палях і сенажацях. Пасля заканчэння Гродзенскага педінстытута працаваў настаўнікам і дырэктарам Грынкаўскай сярэдняй школы. Многіх сыноў і дачок калгаснікаў вывеў у людзі. І зараз хоць часу прайшло шмат, але ж калі заедзеш у сваю вёску, то адбываюцца цёплыя сустрэчы і гутаркі са сваімі землякамі.**

Так і на гэты раз еду каля калгаснай канторы, бачу вялікую групу людзей, спыняюся. З кожным вітаюся за рукі. Спачатку вядзецца агульная гаворка, а потым хто-небудзь з дзядзькоў успамінае мінулае жыццё, тое што было з даваннага часу ў гэтай мясцовасці.

«Глядзіш вось на гэтых падлеткаў, — сказаў Іван Волчык, чарнабровы, з сівой галавой дзядзька, — і ўспамінаеш сваё дзяцінства. Зараз ледзьве падрасце падлетак і ўжо ў бацькі просіць, каб купіць не ровар, а матацыкл ці нават легкавушку!». Іншыя дзядзькі, напэўна, ужо не раз слухалі яго разважанні і пачалі разыходзіцца хто куды. А ў мяне было яшчэ шмат часу і мы з ім падышлі і селі на лаўку каля плота, і пачалі працягваць гутарку. Я дастаў з кішэні пачку сігарэт і пачаў частаваць гаварлівага дзядзьку.

«Я, ведаеце, нетутэйшы. Жыла наша сям'я ў вёсцы Масева, што на Беласточчыне, на ўскрайку Белавежскай пушчы. Немцы нас у час вайны параскідвалі па ўсёй Беларусі. Бацька вырашыў пераехаць на Свіслаччыну на хутар Клецiска да сваякоў. У нас беластоцкія землі былі пясчаныя, дрэнныя. Свайго хлеба не хапала. Хоць, праўда, часта праходзілі дажджы, не тое што зараз — штогод тут засуха. У народзе кажуць, што лес і рэчка прыцягваюць хмары і часцей праходзяць дажджы. У нас вакол быў лес дый працякала рака Нараўка. Хадзілі мы з бацькам на нарыхтоўку лесу. Працавалі з самага ранку дацямна, бо хацелася больш зарабіць, сям'я была вялікая, з сямі чалавек. Мне тады толькі стукнула сямнаццаць гадоў. Рубашкі і кашулі ляцелі хутка ад поту. Мама толькі паспявала іх зацыроўваць.

Раз у месяц прыязджалі ў пушчу купцы з Беластока і Варшавы, выбіралі самы лепшы лес, адпраўлялі сваім саюзнікам у Францыю, Бельгію і іншыя краіны. Пад восень мы працавалі на алёсах. Алёсамі называлі ў лесе нізкую, вільготную мясціну, дзе ў асноўным раслі лісцевыя пароды дрэў: дуб, вольха, бяроза, ясень і граб. Спілоўвалі шмат дрэў, якія ў асноўным ішлі на мэблю. Дый я так стамляўся ад працы, моцна пацеў, піць хацелася. У алёсе знайшоў крынічку, прыпаў губамі да яе, дый давай на ўсю катушку піць халодную ваду. Ідучы дадому пад вечар адчуў нейкую нездаровую млоснасць. І на другі дзень не змог падняцца з ложка. Прыйшлося каля дзесяці дзён праляжаць дома. Затым бацька кажа: «Едзь, сынок, у Ялоўку, да Вярбіцкага». Там ён меў лаўку і быў добра знаёмы бацьку. Ён нават нам адпускаў тавары ў крэдыт. І там у яго быў урач-яўрэй, добра знаёмы Вярбіцкаму. У той час лячыцца было вельмі цяжка. Калі хочаш лячыцца, то нарабывай вяроўку на рогі карове і вядзі на кірмаш прадаваць. Раніцай Вярбіцкі пагаварыў з доктарам і павёў мяне да яго без чаргі. Доўга мяне распытваў урач. А потым прызнаў, што ў мяне хворыя ныркі. Выпісаў мне лекі, палажыў мяне на некалькі дзён у бальніцу. Заплацілі мы за лячэнне тысячу злотых. Паваляўся я яшчэ тыдзень дома, а затым бацька не вытрымаў, сказаў: «Ну, Іван, хопіць ляжаць, пойдзем зноў на нарыхтоўку драўніны, бо я ўжо ў даўгі залез. Нават на тваё лячэнне пазычыў у суседа Лукшы грошы».

Пайшоў я зноў працаваць на алёсы. Праз тыдзень зноў адбылося няшчасце. Спускалі ўніз трухлявую асіну. Яе неяк панесла юзам, а з другога дрэва паляцеў сук і мне прама стукнуў у правую руку. Дый так секанула моцна, што з вачэй аж пасыпаліся іскры. Я ніцма ўпаў на зямлю, скруціўся ў абаранак, пачало кружыцца ў галаве. Калі крышачку адышоў боль, я паклаў руку на сырую зямлю і заснуў на гадзіну. І зусім неяк несвядома падумаў, што гэта зноў у будучыні прынясе шмат клопатаў.

На другі дзень руку так згуравала, што я і сам яе не пазнаў. Зрабілася яна нейкай нерухомай, крыху вадзяністай, падобнай на халадзец. Мама зноў моцна перажывала. Прынесла з-пад застрэшша нейкае зелле, адварвала яго, мачыла палатно і прыкладвала да маёй рукі. Але ж я, бадай што, не адчуваў ніякай палёгкі. Руку шчымела, цягнула і болі адчуваліся нейкія страшэнныя, проста невыносныя. Зноў павезлі мяне ў Ялоўку да доктара. Ён, канешне, не парадаваў мяне. Спачатку пашчупаў, пакруціў маю руку. Але гэта мне, акрамя болю, нічога не прынесла. Канчаткова мяне вывелі з раўнавагі яго словы, сказаныя неяк працяжна, без усякай надзеі: «Пэўна, прыйдзецца ампутаваць руку!» Пачуўшы такія словы, у мамы пацяклі слёзы. Я таксама не стрымаўся і неяк не па-даросламу пачаў таксама слязіцца. Ужо едучы дамоў я, седзячы ў палукашку, глядзеў на бацьку, які сумеўся, неяк пастарэў і ў вугалках вачэй выцiраў свае слёзы. Што значаць мужчынскія слёзы.

Дома я ўжо, як безнадзейна хворы, ляжаў у ложку. І вось адзін выпадак, ці лепш кажучы адна сустрэча, усё накiравала па іншаму шляху.

У нашу вёску з далёкай Амерыкі ў госці прыехаў наш далёкі сваяк Язэп Мякіш, стары, ужо аблыселы халасцяк. Грошай прывёз, як у нас казалі, поўны мяшок. На вуліцы сустракаў знаёмых, цалаваўся з імі, абнімаў, хлопаў па плячах. Многіх клікаў у жыдоўскую краму да старога Шопіна і частаваў рознымі напоямі, расказваў розныя заакіянскія, смешныя анекдоты. І сам, падвыпіўшы, неяк жартам смяяўся да слёз. Аднойчы, калі абышоў сваіх блізкіх, знаёмых — заходзіць да мяне ў госці. У той час я вазіўся з хворай рукой. Спытаўшы ў чым справа, ён накінуўся на маіх бацькоў, што яны ўсё пусцілі на самацёк і не хочуць лячыць свайго сына. Пахадзіўшы сюды-туды па хаце, Мякіш заявіў, неяк катэгарычна, смела, што «заўтра, дарагі браток, са мной паедзеш у Варшаву. Ведаеш, там ёсць у мяне сякія-такія справы, і заадно пакажу цябе аднаму знаёмаму доктару». Мама неяк узбуджана пачала гаварыць, што ў нас няма грошай на білет і лячэнне. Язэп на гэта смела адказаў: «Нічога не турбуйцеся, у мяне на гэта знойдуцца і грошы, і час на паездку». Назаўтра мы былі на станцыі, селі на цягнік, людзей было шмат на вакзале. І тут Мякіш не мог сядзець, склаўшы рукі, знайшоў вясёлую кампанію. Спачатку гулялі ў карты, потым выпівалі гарэлку, хутка прыехалі ў Варшаву. Язэп заказаў аўтамабіль і мы хутка даехалі да ўрача, прафесара Салавейчыка. Агледзеўшы мяне, ён сказаў, што калі б я праляжаў яшчэ тыдзень дома, то застаўся б без рукі. Адразу вызначыў у мяне хваробу: туберкулёз косці. Мне паспешна зрабілі аперацыю, я там паляжаў месяц у бальніцы і дамоў вярнуўся здаровым. Толькі калі мяняецца надвор'е, то рука неяк дранцвее і трохі пабольвае. А зараз ужо і гады не тыя. І на ўсё жыццё запамяталіся мне алёсы і яшчэ болей Язэп Мякіш, які выратаваў мне жыццё. У тыя часы людзі былі больш добрыя, зычлівыя, чым зараз».

**Іван СУХОЦКІ**
**Гродна**

# Што бачыў Філіп Фядзюк?



■ Філіп Фядзюк другі злева

**Ад пару тыдняў у сеціве можна знайсці выказванне народнага прарока Філіпка, які прадвяшчаў эпідэмію каранавіруса ў 2020 годзе, спісанае яго знаёмым са Старога Валішава на Ніжняй Сілезіі ў 1984 годзе.**

«У год дзвюх дваццатак у час заразы схочуць выбары рабіць, і першы сакратар іхні памрэ перад маем, а палякі іх ад улады пагоняць. Хітры ксёндз адыдзе ў няславе, а касцёл зноў з людам збратаецца. Зараза да лета ўступіць і ў трох адразу гарадах трайня народзіцца”.

Часта бывае, што прароцтвы чытаюцца толькі пасля здзяйснення звязаных з імі падзей. Так было і з вядомым прадказаннем, якое Філіп Фядзюк выказаў у 1975 годзе. Людзі, якія сядзелі разам у цырульні, дыскутавалі аб вялікай буры, якая пранеслася ўчора ўвечары над Быстшыцай-Клодзкай. У адзін момант Філіп Фядзюк, далучаючыся да дыскусіі, сказаў: «Калі сустрэнуцца тры сямёркі, наступіць катастрофа. Вада дойдзе да воўчай пысы”. Такім чынам ён прадказаў драматычную паводку, ад якой пацярпела Польшча ў 1997 годзе і разбурыла многія мясцовасці ў Клодзкім павеце. Гэты дзень прыбыў 7 ліпеня 1997 года. Тры сямёркі сталі побач. Уначы з 7 на 8 ліпеня вада вырвалася на вуліцы горада, нарэшце, дасягнуўшы ўзроўню 8,71 метра вышэй за звычайны ўзровень Нысы-Клодзкай і дасягнуўшы ўзроўню, на якім на адным з дамоў знаходзіцца барэльеф са сасмаглым ваўком. Шмат хто памятае яго як адзінокага чалавека, які не любіў, калі яго турбавалі пры працы ў гаспадарцы. А тым, хто наведаў яго, прадказаў будучыню.

Як дагэтуль ніхто не сустракаў нікога, у каго былі апісаны словы празорлівца са Старога Валішава. Такім чынам, здаецца, што прароцтва Філіпка, якое можна знайсці ў інтэрнэце, мабыць, ілжывае. Можа быць, яго аўтару прыемна паназіраць за сацыяльнымі медыямі, атрымліваючы асалоду ад паспяховага жарту. 36 гадоў прайшло з 1984 года. За той час хтосьці напэўна знайшоў бы запіскі меркаванага сябра Філіпкі. Сёння яго мала хто памятае, хаця магілу ў Старым Валішаве наведваюць тыя, каму ён дапамог. Апрача вялікай паводкі ў 1997 годзе распавядаў таксама пра яшчэ адзін патоп, які адбудзецца, калі «сустрэнуцца тры дзявяткі».

Філіп Фядзюк, якога яшчэ называюць Клодзкім Настрадамам, — унікальная фігура ў гісторыі гэтага рэгіёна. Многія кажуць, што, нягледзячы на свой дар, ён не быў ахвотны дапамагаць кожнаму, хто прыйшоў па параду. Часта наведвалі яго прыезджыя нават з самых далёкіх раёнаў Польшчы. Ён вёў сваю гаспадарку і не любіў, каб яго турбавалі пры рабоце. Як пісаў Марэк Пэжынскі ў сваёй кнізе «Клодзкая зямля — арт-код, святыні, замкі, сакральныя асаблівасці”, адну вроцлаўянку, што прыехала да Філіпка, каб спытаць пра яе сужонства, абкідаў бульбінамі. Ён не любіў хлусоў і круцялёў. Філіпок паважаў духоўных, якім дапамагаў амаль пры кожнай магчымасці. Ці прадказаў ім будучыню? Цяжка сказаць, таму што ніхто з іх ніколі да гэтага не прызнаваўся. У Вялікую пятніцу Філіпок не прымаў наведвальнікаў, а ляжаў крыжма ў сваім доме і маліўся. Быў халасцяком. Грошы, якія атрымліваў ад людзей за свае «паслугі», часцей за ўсё аддаваў на касцёльныя мэты.

Кажуць, Філіп Фядзюк меў здольнасць «чытаць» чалавека, якога ён сустрэў. Ён бачыў яго мінулае, а таксама яго будучыню. Часам даваў незнаёмым заўвагі адносна рэчаў, пра якія тэарэтычна не павінен ведаць. Напрыклад, некалькі разоў ён казаў незнаёмай жанчыне, ідучай у храм, што яна не павінна падманваць мужа. Ён папярэдзіў іншую жанчыну пра смерць: «Ты будзеш у Быстшыцы адзін дзень, а на наступны дзень памрэш». Яе пляменнікі жартавалі, што калі яна хоча вечна жыць, не павінна ехаць у Быстшыцу. І ўсё ж яна паехала... і на самой справе памерла на наступны дзень.

У вёсцы Валішаў, дзе жыў Філіпок, жыхары яго ведалі так добра, што калі ён пачынаў штось барматаць пра чыёсьці здароўе, яны ўжо ведалі, што чалавеку, які стаў прадметам размовы, не дапаможа шмат. Дыягназы Філіпка пра праблемы са здароўем часта аказваліся больш дакладнымі, чым тыя, якія рабілі медыкі. Філіп Фядзюк таксама дапамог пазначыць месца патаплення цела святара Ежы Папялушкі. У нейкі момант яго здольнасцямі зацікавіліся супрацоўнікі міліцыі і бяспекі. Філіп Фядзюк адмовіўся ад супрацоўніцтва з імі.

На жаль, гэта яшчэ не канец апакаліптычных бачанняў сілезскага відавочніка. Ён таксама прадказаў Трэцюю сусветную вайну. Папярэдзіў, што пасля яго смерці прыйдзе яшчэ адна, самая страшная вайна, што нават дзявок будуць мабілізаваць у армію. Гэты непрыкметны чалавек стаў сапраўдным аракулам. Калоны машын пад'язджалі да маленечкай і калісьці ціхай вёскі. Тысячы людзей (у тым ліку эмісары многіх устаноў) прыходзілі параіцца з відавочнікам, чыя слава расла ўсё больш і больш. Некаторыя дамагліся поспеху, іншыя не змаглі, бо Філіпок дапамагаў толькі абраным. Аднак ніколі не адмаўляў у дапамозе жыхарам Валішава. Мала хто ведае, што ён прадказаў кар'еру Пшэмыславу Салеце! Здарылася, што сваячка баксёра прыехала ў Валішаў з фатаграфіямі Салеты і яго брата. Затым відавочнік сказаў, што адзін з хлопчыкаў будзе вельмі вядомым. Два гады не мінула з таго часу, і малады Салета дасягнуў свайго першага значнага поспеху.

— Нам, дзецям, здаваўся ён дзіўным, хаця я ведаю, што старэйшыя яго вельмі паважалі, — успамінае Тэрэза Пятроўская, цяпер жыхарка Вроцлава. Таксама ёсць выпадак з жанчынай, якая хацела атрымаць параду ў мясцовага відавочніка, за якую яна хацела разлічыцца яйкамі. Праблема ў тым, што частку з іх схавала пад прыдарожным дрэвам. Як лёгка здагадацца, кабета не атрымала дапамогі і была выгнана зусім непараўнальнымі словамі. Кажуць, што Філіпок сказаў ёй, колькі яек яна схавала ад яго.

Філіп Фядзюк нарадзіўся ў 1907 годзе ў невялікай вёсцы Гостаў, што побач з Тарнавіцай-Польнай ва Украіне. Менавіта там ён упершыню выпрабаваў дар празорлівасці. Калі пайшоў у царкву з маці, яны праходзілі міма хаціны. Малы Філіпок сказаў, што хутка яе страцяць. І сапраўды, калі яны вярталіся з імшы, увесь дом ужо гарэў. Хоць Філіпок не скончыў ніводнай школы, часта гаварыў няўважліва і незразумела, яго паважалі ў грамадзе. Дапамагаў людзям яшчэ да Другой сусветнай вайны. У 1945 годзе сям'я прыехала ў Стары Валішаў у адным з трох транспартаў перасяленцаў з «усходніх крэсаў». Разам з ім прыехала ў ваколіцы Быстшыцы ўся Тарнавіца, тамашні пробашч і пажарнікі. Амаль усе яны былі ў нейкай ступені звязаны, ствараючы герметычную супольнасць.

— Аднойчы мой бацька ехаў грузавіком з двума калегамі ў напрамку кар'ераў, — успамінаў жыхар Клодзка, — Там, на гары, каля Алджыховіц-Клодзкіх, дзе праязджаецца праз мост на вуліцу Быстшыцкую, меў кузню пан Пёнтак. Каваль спытаўся, ці не падвязе гэтага старэчу з баронамі ў Стары Валішаў. Паладзіў быў яму такія невялікія бароны, якія цягне конь па полі. Мой бацька сказаў, што возьме гэтага дзядулю ў аўто. Мой тата не ведаў Філіпка. Адзін з пасажыраў спытаўся ў новага пасажыра, ці не ведае ён такога Філіпка з Валішава, таго «курдупля», пачаў з яго насміхацца і жартаваць з яго здольнасцей. Калі бацька завёз дзядулю пад яго дом, зняў ягоныя бароны, старэча звярнуўся да таго, хто з яго жартаваў: «Смейся, смейся, засталося табе яшчэ два дні». Усім заняло дых — гэта ж быў Філіпок! І праз два дні калега майго бацькі трапіў у аварыю і загінуў.

Перад смерцю празорлівец хацеў перадаць свае здольнасці сваяку. Аднак ён паставіў умову, што хлопец павінен застацца халасцяком. Той адмовіўся, маючы ўжо нарачоную. Філіпок казаў, што яго здольнасць — гэта дар Божы, і той вернецца да Бога пасля яго смерці. Філіп Фядзюк памёр 2 лютага 1992 года, што, на думку некаторых, таксама з'яўляецца сімвалічнай датай. Пахавалі яго ў залатых шатах і ў рызе, якую ахвяраваў яму святар. Магіла празорліўца знаходзіцца ў Старым Валішаве на цвінтары.

(лук)

## Вясна

Вясна зноў падарыла дрэвам адзенне. Зялёным полымем гарэць лугі. Сонца сцеле лотаць ля ракі. У кустоўі звонка свішча салавей, то зноў кукуе зязюля. Над ровам каля дарогі ляціць светла-жоўценькі матылёк. Пачынаюць квітнець сады. Сёлета 8 красавіка ў маім агародзе першыя зацвілі слівы-мірабэлькі. Над іх духмянымі кветкамі гудуць працавітыя пчолы ды пагрозліва зумкаюць чмялі. На балоцістым лузе крычыць кнігаўка ды паважна ходзяць даўганосыя буслы. У свае гнёзды прыляцелі жвавыя ластаўкі і лётаюць, лётаюць ды весела шчабечуць.

Стаю на беразе ракі Нараўкі, над паплаўкамі. Нада мною раскошнае сонца, спяваюць жаваранкі і белыя воблачкі плывуць паволі, амаль не плывуць. Яны высока, высока!.. Лёгкі ветрык прыносіць пах чаромхі. Вясна, я цешуся твайму вяртанню. **(яц)**

Цвіце лотаць



Фота Янкі Целушэцкага

## Нарваўская дэмаграфія

У Нарваўскай гміне Гайнаўскага павета 47 населеных пунктаў. Найбольшыя вёскі гэта Нарва (пражывае ў ёй 1412 асоб), Трасцянка (205), Ласінка (187), Тыневічы-Вялікія (128), Крывец (123), Макаўка (113), Гарадзіска (82), Адрынкі (81), Сацы (73), Ваські (65), Агароднікі (64), Анцуты і Ляхі (па 60), Храбустоўка і Тыневічы-Малыя (па 44), Новіны (43) ды Прыбудкі і Ванева (па 42).

Да меншых вёсак належаць Кавела — 40 жыхароў, Катлоўка і Пухлы — па 38, Даратынка, Козлікі і Рыбакі — па 34, Лапухоўка і Істок — па 33, Кутавая — 32, Градочна — 31, Бялкі і Рагозы — па 28, Сакі — 23, Падбаравіска — 20, Янова — 19, Радзькі — 17, Іванкі — 16, Цімохі — 15 Гарэнды і Скарышэва — па 12 ды да найменшых Граматнае — 8, Уснаршчына і Пашкоўшчына — па 7, Брушкоўшчына — 5, Цісы, Забалацце і Гайдукоўшчына — па 2 ды Качалы — 1 жыхар.

У Нарваўскай гміне пражывае 3450 чалавек (у 2016 годзе было 3618). На 100 мужчын прыпадае 105 жанчын. Лік жыхароў у гміне з кожным годам меншае. Бывае, што ў той ці іншай вёсцы то меншае, то на пару чалавек прыбывае. Але ўсё ж у многіх паселеннях пераважна меншае, а не большае. Факт фактам, што на Гайнаўшчыне вёскі абязлюдждваюцца і то ўжо каторы год. **(яц)**

## У Гайнаўцы няма пачакальні

Цяпер у Гайнаўцы няма пачакальні для пасажыраў аўтобуснай камунікацыі ПКС і прыватнага пасажырскага аўтатранспарту. Раней можна было карыстацца пачакальняй на чыгуначным вакзале ПКП (тут былі білетныя касы, бар на другім паверсе і туалет). Але яе закрылі. Тут на вялікай пляцоўцы былі пероны для аўтобусаў ПКС, драўляныя лавачкі і прыгожыя прыстрэшкі-навесы. Пасажырам было выгадна.

Зараз пасажырам (іх збіраецца многа і едуць у розных напрамках) прыходзіцца чакаць „свайго” аўтобуса на тратуары на вуліцы 3 Мая ды пад адкрытым небам. Пад невялікім навесам можа схавацца ад халоднага ветру ўсяго шэсць чалавек. Варта дадаць, што гэтым аўтобусным прыпынкам карыстаюцца таксама пасажыры гарадской аўтобуснай камунікацыі лініі № 1. Пачакальня для пасажыраў у павятовым горадзе патрэбная. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Зорка
для дзяцей і моладзі

# Экзамен для васьмікласнікаў:
## трэба працаваць і панаваць над стрэсам!

— Усім нам будзе добра, калі людзі будуць ужо здаровы, — кажа **Габрыся Вільдовіч**. — Я мару, каб эпідэмія чым хутчэй скончылася.

Экзамены для васьмікласнікаў пакуль адтэрмінаваны на канец чэрвеня. Сітуацыя не да канца ясная, усё залежыць ад развіцця пандэміі. Калі хваля захворванняў будзе шыбаваць угару, тэрмін будзе перакладзены на восень, або і яшчэ далей...

Як не здурэць у такой сітуацыі? Як не знеахвоціцца да навукі матэматыкі, замежнай і польскай моў? Як не дазволіць сабе збіцца з працоўнага рытму і паспяхова давесці справу да канца.

Мы спыталі ў нашых сяброў-васьмікласнікаў, як яны спраўляюцца ў гэтай сітуацыі:

**Габрыся Вільдовіч**, вучаніца ПШ у Гарадку:

— У гэтым годзе я здаю экзамен васьмікласніка. Эпідэмія каранавіруса абазначае, што экзамен будзе праводзіцца не ў красавіку, а ў чэрвені. Дзякуючы доступу ў інтэрнэт мая падрыхтоўка не перапыняецца, але я думаю, што заняткі ў школе даюць лепшыя вынікі. Самая вялікая перашкода — адсутнасць рэальных кантактаў з настаўнікамі. Я таксама ведаю, што ў некаторых маіх аднакласнікаў дома няма вучэбных матэрыялаў, якія неабходны пры падрыхтоўцы да экзамену, напрыклад, кніг.

**Мікола Здрайкоўскі**, вучань ПШ № 53 у Беластоку:



— Вядома, рыхтуюся да экзамену васьмікласніка, бо мне, васьмікласніку, гэта самая важная рэч. Найбольшай перашкодай з'яўляецца тое, што не можам сустрэцца з настаўнікамі ў чатыры вочы. На шчасце ў маёй школе адбываюцца ўрокі анлайн, дзе можам задаваць пытанні.

На жаль, не ўсе маюць такую магчымасць.

**Сара Скаўронская**, вучаніца ПШ № 4 у Беластоку:

— Крыху рыхтуюся і маю падтрымку настаўнікаў, якія прысылаюць мне матэрыялы і тэсты. Вялікіх перашкод няма. Калі дакладна падрыхтуешся, будзе добры вынік. Трэба таксама панаваць над стрэсам. Я — лаў-



рэатка прадметнага конкурсу па беларускай мове і можа таму так гэтага не перажываю.

**Мікола Здрайкоўскі** мае таксама спосаб, каб не «патануць» у здагадках пра тэрміны экзаменаў. Многа залежыць ад нас саміх:

— Тое, што не ведаем калі будуць экзамены, паводле мяне, не выбівае з рытму, бо калі нехта сапраўды добра падрыхтаваны, зможа іх напісаць у любы момант.

Пра тое, што нашы сябры падрыхтаваны да цяжкіх выклікаў, сведчыць і тое, што ўсе яны адказалі на нашы пытанні анлайн на культурнай, прыгожай беларушчыне. Веданне роднай мовы дадало ім упэўненасці, а званне лаўрэата прадметнага конкурсу вельмі аблягчае справу ў наш складаны час ізаляванасці і нервовасці.

Такой сілы і ўпэўненасці пазазайздросціла б ім многа дарослых людзей!

Але ж яны самі запрацавалі на такі стан духу і падыход да выклікаў. Той, хто пойдзе за іх радай, напэўна скарыстае. Салідная праца ў час эпідэміі, гэта наш уклад у змаганне з хваробай, — як сказаў іншы наш сябра, **Тамаш Саевіч**, карэспандэнт Польскага Радыё ў Кітаі.

Як вядома, поспех і сілу даюць чалавеку мары і надзея на лепшае заўтра.

**Сара**: — Калі адкладаю набок урокі, найбольш думаю аб гэтым, каб дастацца ў ліцэй у клас са спецыяльнасцю, пра якую мару. Думаю, як гэта будзе, калі ўжо пайду ў ліцэй, якіх там сустрэну сяброў, ці яны мяне палюбяць, ці мне там спадабаецца і ці настаўнікі будуць цікава весці ўрокі. А перш за ўсё мару, каб тое ўсё, звязанае з каранавірусам, нарэшце скончылася!

— І я мару, — кажа **Мікола**, — каб усё вярнулася да нармальнасці, каб можна было сустрэцца з сябрамі.

**Зорка**

Уладзімір Гайдук,
Тарнопаль
Нараўчанская гміна

### Буслы

У кут Беларусі,
да родных хацінаў.
Імкнуцца буслы,
бы ўсім пашанціла.

Да роднае рэчкі,
лугоў і ўзлескаў,
для шчасця сатказь
бы паляны з пралескаў.

З надзей дарунак
матулям ды татам.
Здзяйсняюцца мары
— растуць немаўляты.

На крылах ляцела
цяпло для прадвесня.
І будзіць нас клёкат
ды жаўранка песня.

## УВАГА КОНКУРС!
## № 17-20

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 3 мая 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Ехала пані ўначы. Пагубіла ключы, сонца ўкрала, месяц бачыў.

Р... (падказка: яна з'яўляецца вясной, на траве).

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 13-2020: вочы. Узнагароды, беларускія літары для клавіятуры камп'ютара, выйграла Мальвіна Сахарчук. Віншуем!

# Міфы
## старажытных беларусаў

Фота Г.К.



**БУСЕЛ** – нашы продкі лічылі яго свяшчэннай істотай, вешчуном вясны, апекуном ураджаю і дабрабыту.

Паводле беларускіх міфаў, бусел раней быў чалавекам, якога Бог пакараў за празмерную цікавасць. Усявышні сабраў у мех гадзюк і мошак ды даручыў чалавеку кінуць яго ў глыбокі вір, не развязваючы торбы, але той чалавек не ўстрымаўся, заглянуў усярэдзіну. І выпусціў усю нечысць на зямлю... За кару ён вымушаны хадзіць па балоце і збіраць нечысць...

Буслы жывуць усё жыццё ў адной пары, таму яны прыклад сямейнай вернасці і любові. Нашы продкі дапамагалі буслам будаваць гнёзды, дзеля буслянак ставілі старыя колы і бароны. За гэта, меркавалі, буслы засцерагуць жытло ад пажараў. Калі бусел нёс у гняздо шчэпкі ці вужа, якія трапяталіся ў яго дзюбе, з'явілася ўяўленне, што ён прыносіць дзяцей.

Выяву бусла скарыстоўвалі ў Калядных абрадах. Ён часты персанаж навагодніх карагодаў. Бусла лічылі носьбітам і ахоўнікам нябеснага агню, апекуном ад граду і буралому. Падчас навальніцы раілі схавацца пад дах пабудовы з буслянкай, лічылі што ў такое месца ніколі не ўдарыць маланка.

Па буслах варажылі, які будзе надыходзячы год. Калі ўпершыню сустрэць лятучага бусла — год будзе паспяховы і лёгкі, калі птушка сядзіць у гняздзе — гэта вяшчала застой.

Верылі таксама, што калі бусел скідаў з гнязда птушаня, год будзе дрэнны і скупы на ўраджай.

Зрабіць шкоду буслу ці яго гнязду, лічылася ў народзе вялікім грахом. За гэта, верылі ў народзе, ён можа спаліць хату, прынёсшы галавешку на страху, або забрудзіць калодзеж, кінуўшы ў яго гадзюку.

Акрамя белых буслоў у Беларусі жывуць чорныя буслы. Яны адрозніваюцца ад сваіх белых братоў не толькі колерам. Гэтая птушка звычайна селіцца ў лесе, чым далей ад людзей. Паводле легенды, чорны бусел быў некалі белым і ён жыў каля людзей, але злы чалавек, якога раздражняў клёкат, разбурыў гняздо і знішчыў буслянят. І тады птушка счарнела ад гора і пакут...

У гонар буслоў названыя многія расліны як бусланосец ці буславы дзюбы. Першая трава служыць як матэрыял для пабудовы буслянкі, другая, з-за доўгага струка з насеннем, нагадвае галаву птаха. На Падляшшы адраджаецца абрад «буславай лапы». Якраз на Благавешчанне пякуць печыва ў форме буслінай лапкі. Булачкі дораць дзецям, каб яны раслі здаровымі і «высока» лёталі як буслы на блакітным, вясновым небе.

*(Адрэзак паводле «Міфалогіі для дзяцей» Алесі Коршак)*

**(гак)**




Вучні бельскай тройкі з Яраславам Падольцам

# Нядзеля
## (беларуская народная легенда)

Ці ведаеце як Міхась у сераду вёз нядзелю?
— Не?
— Тады паслухайце, мілыя дзеткі!

Ехаў ён з Гайнаўкі ў Камень, з рынку. Бачыць, бяжыць дзеўка ў белай сукенцы, быццам з-пад вянцу ўцякала...

— Падвязі, дзядзька! — папрасілася яна.

Той, хоць баяўся, спыніў каня:

— Сядай!

Дзяўчына ўскочыла на воз і адразу пад салому схавалася. Ехалі яны, ехалі... ажно даганяюць іх два белыя сабакі.

— Дзядзька, не бегла сюдой дзеўка ў белым? — спыталі яны.

Міхась, хоць баяўся, на хаду змахніў ім. Ён здагадаўся, чаму яго пасажырка пад салому нырнула...

— Не бегла, не бачыў, — адказаў ён рашуча.

Сабакі мінулі яго і паляцелі на сухі лес. Тады дзяўчына ўстала і кажа:

— Добра, што ты ім не сказаў!

— Але? — здзівіўся вазак.

— Я — нядзеля, — паясніла дзяўчына. — Калі б ты сказаў, яны мяне разарвалі б. Ды ўжо ніколі ў людзей не было б нядзелі і свята, а толькі будзень ды будзень...

Яна злезла з воза і сама пашыбавала на зялёны, стары Кутлоўскі лес.

**(гак)**

## Польска-беларуская крыжаванка № 17-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 13-2020:**
Звер, асака, зарадка, зараза, маг, радок, аказія, трон. Забарона, рад, замак, парадак, рагоз, Сара, кіт, арда, яр, кок, атам, тон.

Узнагароду, кніжку Пятра Васючэнкі «Дзівоснае лета паноў Кубліцкага ды Заблоцкага» выйграла **Алівія Місюк** з Беластока. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Węch / Księżniczka | | | | Szpinak / Hotel | | | | | | |
| | | | Szczegół | | Hej! | Tlen | | Troki | Jamnik | |
| | Puch | Dostatek | | | | | | | | |
| | Metal | | | | | | Ina / Fanatyk | | | |
| | Telefon | Malec | | | | | | | | Szał |
| | Rysunek | | | | | | | | Nil | |
| | Alt | | | | | Nina | | | | |
| | | | | | | | | Ił | | |
| | Sól | | Portal | | | | | | | |

# Фердынанд Рушчыц і філатэлія

У каляндар памятных дат 2020 года ЮНЕСКА ўключыла 150-годдзе з дня нараджэння Фердынанда Рушчыца (нар. 10 снежня 1870, маёнтак Багданава, Ашмянскі павет, цяпер Валожынскі раён — пам. 29 кастрычніка 1936, Багданава). Яго называюць чарадзеем лірычнага краявіду, вялікім мастаком і дзеячам культуры і, нават, апосталам духоўнасці. Фердынанда Рушчыца лічаць сваім і ў Беларусі, і ў Польшчы, а таму заяўку на ўключэнне ў каляндар ЮНЕСКА падавалі сумесна. І гэтак жа разам плануюць зладзіць напрыканцы года міжнародны вернісаж Фердынанда Рушчыца, да ўдзелу ў якім запрошаны таксама музеі Літвы і Украіны.

Жыццё і дзейнасць Фердынанда Рушчыца апісана многімі аўтарамі, але мала каму вядома, што Фердынанд Рушчыц унесены ў каталогі як аўтар паштовых марак.

У 1908 годзе ён пасяліўся ў Вільні, усяго ў некалькіх дзясятках кіламетраў ад Багданава. У той час, ва ўзросце ўсяго 38 гадоў ён стварыў апошнюю вялікую карціну алеем пад назвай *Гняздо*, якая адлюстроўвае фрагмент саду ў Багданаве пад навальнічным небам.

Чаму Рушчыц перастаў маляваць алейныя творы? Ён аддаў перавагу велізарнай культурнай, грамадскай, арганізатарскай дзейнасці, якой з 1908 г. ахапіў яго любімы горад над Віліяй, горад, які ён абуджаў да былой велічы, найперш у духоўным, творчым сэнсе.

Мастак, графічны дызайнер, карыкатурыст, сцэнограф, грамадскі дзеяч і педагог, Рушчыц з вялікім запалам заняўся тэатральнай і паратэатральнай працай.

Ён быў аўтарам ілюстрацый, віньетак і вокладак кніг. Ён распрацоўваў плакаты, экслібрысы, афішы і вокладкі, пісаў артыкулы пра помнікі Вільні. Выконваў шмат грамадскай працы, удзельнічаў у арганізацыі юбілею Універсітэта Стэфана Баторыя ў 1929 годзе: ён назваў дзядзінцы ўніверсітэта, дабіўся аб перанясенні з Парыжа ў Вільню парэшткаў Іаахіма Лялевеля, распрацаваў рэгаліі ўніверсітэта: ланцугі рэктарскія і дэканскія, тогі, пячаткі, запрашэнні і праграмы. Па рысунках Рушчыца былі створаны сцягі для войска, школ, таварыстваў, універсітэта. Мастак удзельнічаў ва ўсіх культурных ініцыятывах у Вільні. Шмат гадоў працаваў у гарадской радзе, ініцыяваў стварэнне Таварыства аматараў Вільні, быў членам розных камітэтаў. Калі ў 1931 годзе ў саборы былі выяўленыя каралеўскія магілы, ён заняўся складаннем чарцёжнай дакументацыі. Ён стаў вялікім прапагандыстам Вільні і яе помнікаў: выступаў, чытаў лекцыі, пісаў і з вялікім энтузіязмам праводзіў па горадзе незлічоныя дэлегацыі і экскурсіі. Гэты вялікі і align рознабакова адораны чалавек суаргані зававаў культурнае жыццё Вільні. Вільня вельмі многім абавязана яму.

Пасля захопу Вільні і ваколіц войскамі генерала Люцыяна Жалігоўскага, у склад якіх уваходзілі 1-я Літоўска-беларуская дывізія, 9 кастрычніка 1920 года насуперак пазіцыі Лігі Нацый генерал указам ад 12 кастрычніка 1920 года заснаваў ніколі не існуючую дзяржаву і назваў яе „Сярэдняй Літвой" са сталіцай у Вільні. Краіна ахоплівала каля 10 тыс. кв. км. Яе засяляла 530 тыс. людзей.

У склад часовай кіруючай камісіі Сярэдняй Літвы ўваходзіў, у прыватнасці, Дэпартамент працы, сувязі і грамадскіх работ, у якім быў створаны Аддзел пошт і тэлеграфаў. Гэты аддзел вельмі энергічна ўзяўся за арганізацыю паштовых устаноў і ўкараненне паштовых паслуг. 16 кастрычніка 1920 г., усяго праз некалькі дзён пасля ўступлення польскіх войскаў у Вільню, было створана паштовае аддзяленне Вільні і ў бліжэйшы час прызначана яшчэ 22 ведамствы і 6 паштовых агенцтваў. Для выканання паштовых паслуг патрэбны былі паштовыя маркі.

„Праектыроўшчыкамі марак былі прафесар Фердынанд Рушчыц і Збігнеў Занеўскі. Маркі друкаваліся ў Людовіка Хаміфіскага ў друкарні „Люз", у Юзэфа Завадскага на вул. св. Ганны, у друкарні „Ласкаў і Сын" на вул. Субач, а апошнія выданні выраблялiся на Дзяржаўных графічных прадпрыемствах у Варшаве. Маркі Сярэдняй Літвы былі ў звароце з 20 кастрычніка 1920 года па 30 красавіка 1922 года. Выручка ад іх продажу ў намінальным абʼёме склала 756348625 марак" (Józef Falkowski, Edward Wieczorek, *Litwa Środkowa*, „Filatelista", 2000, nr 7, s. 347).



Першая серыя паштовых марак Сярэдняй Літвы выпушчана 20 кастрычніка 1920 года. На марцы малюнак Герба Сярэдняй Літвы, які Дэкрэтам № 1 ад 12 кастрычніка 1920 г. Люцыян Жалігоўскі ўстанавіў уласнаручна. Шчыт герба рассечаны, у левым полі адлюстраваны польскі сярэбраны аднаголовы каранаваны Арол, у правым полі — сярэбраная літоўская Пагоня. Аналагічная кампазіцыя адлюстроўвалася на чырвоным палотнішчы сцяга Сярэдняй Літвы. Маркі друкаваліся на рознай паперы і сямі розных колераў.

Першая серыя паштовых марак Сярэдняй Літвы, выпушчаная 20 кастрычніка 1920 года: Герб Сярэдняй Літвы: Арол і Пагоня.



У студзені — лютым 1921 года выпушчана была серыя з шасці паштовых марак з іншымі малюнкамі паводле праекта Фердынанда Рушчыца.

Серыя паштовых марак Сярэдняй Літвы выпушчаная 21.01-15.02. 1921 года: 25 фенігаў — барэльеф з царквы на Антокалі, 1 марка — сярэднявечны рыцар, Арол і Пагоня, 2 маркі — Вострая брама ў Вільні, 4 маркі — франтон Віленскага сабора, 6 марак — рэгаліі рэктара ўніверсітэта ў Вільні, 10 марак — партрэт Люцыяна Жалігоўскага.

17.01. — 1.04.1921 года дзяржаўная друкарня ў Варшаве выпусціла серыю з 8 марак з рознымі рысункамі.



Трэба сказаць, што дакладнае аўтарства гэтай і наступных серый устанавіць не ўдалося, за выключэннем наступнай спасылкі: „Аўтарам большасці графічных праектаў гэтых марак (Сярэдняй Літвы — Л. К.) быў прафесар Фердынанд Рушчыц, пасля дэкан факультэта выяўленчых мастацтваў Віленскага ўніверсітэта. За час свайго паўтарагадовага існавання Пошта Цэнтральнай Літвы ўвяла ў абарот 11 выпускаў марак, 10 з якіх былі выпушчаны ў беззубцовым і зубцаваным варыянце" (Jeremi Melnik, *Znaczki przedrukowe Litwy Środkowej*, „Filatelista", 2005, nr 7, s. 349).

Серыя паштовых марак Сярэдняй Літвы выпушчаная 17.01-1.04. 1921 года: Касцёл св. Ганны; Арол на кані; Пазнейшы Герб Сярэдняй Літвы, у каранаваным чатырохчастквавым шчыце якога адлюстроўваўся польскі Арол (у 1 і 4 чвэрцях) і Пагоня (у 2 і 3 чвэрцях) і цэнтральны шчыток з гербам Вільні (св. Хрыстафор, які ідзе па вадзе і нясе немаўля Хрыста); Віленская кафедра; Ядвіга і Ягайла; Люблінская унія; Тадэвуш Касцюшка і Адам Міцкевіч; Астранамічная абсерваторыя Пачобута.



15.01. — 20.03.1921 года ўведзены ў абарот шэсць марак даплаты.

Маркі даплаты: Віленскі ўніверсітэт, Замак у Троках, Гара Гедыміна, Вострая брама, Касцёл св. Ганны.

Першая гадавіна захопу Вільні генералам Люцыянам Жалігоўскім была адзначана выпускам серыі з дзвюх марак. У звароце з 01.11.1921 года.



Дзве маркі з нагоды першай гадавіны захопу Вільні: Улан на фоне Віленскага сабора, Партрэт генерала Л. Жалігоўскага.



У IV томе „Польскіх паштовых марак" паведамляецца, што першапачаткова існаваў праект выпуску гэтай серыі з шасці марак. Але праекты чатырох марак не рэалізаваныя.

Не рэалізаваныя праекты марак з нагоды першай гадавіны захопу Вільні з партрэтамі палкоўніка Беліны (Уладзіслаў Жыгімонт Беліна-Пражмоўскі — палкоўнік кавалерыі, які праславіўся захопам Вільні ў красавіку 1919 года.), генерала Шаптыцкага (Станіслаў Шаптыцкі з красавіка 1919 года камандаваў Літоўска-Беларускім фронтам, ганаровы грамадзянін Вільні), генерала Рыдз-Сміглага (Эдуард Рыдз-Сміглы (1886-1941) — палітычны дзеяч, маршал, галоўнакамандуючы падчас вераснёвай кампаніі), Юзафа Пілсудскага (першы маршал (1920), салдат, палітык, грамадскі і незалежны дзеяч).



Апошняя серыя марак была прысвечана адкрыццю Сейма Сярэдняй Літвы. У звароце з 1.02.1922 года.

Серыя марак, прысвечаная адкрыццю Сейма Сярэдняй Літвы: Сейбіт; Герб Сярэдняй Літвы; Будынак Віленскага тэатра — месца пасяджэння Сейма; Каваль.

Вядомыя таксама тры не рэалізаваныя праекты марак, падрыхтаваных з нагоды адкрыцця Сейма Сярэдняй Літвы. Гэта: праект маркі ў выявай Герба Сярэдняй Літвы і праекты марак, які паказваюць у розных ракурсах будынак Віленскага тэатра — месца пасяджэння Сейма. Ілюстрацыі праекта ўзятыя з калекцыі тагачаснага дырэктара Аддзела пошт і тэлеграфаў інжынера Юзэфа Гадвода.



Не рэалізаваныя праекты марак, падрыхтаваныя з нагоды адкрыцця Сейма Сярэдняй Літвы.

Пробы і макулатура для кожнага выдання перад канчатковым друкам не знішчаліся, але прадаваліся гандлярам марак, а атрыманыя грошы ў агульнай колькасці каля 10 мільёнаў марак залічыліся ў касу Польскага белага крыжа, які займаўся адукацыйнай і культурнай дзейнасцю, у асноўным сярод вайскоўцаў.



У 1918 годзе былі выдадзены першыя маркі Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэта серыя з трох марак. „Марка найвышэйшае намінальнае вартасці гэтае серыі — 5 рублёў — мае вобраз беларускага аратага, што скародзіць свой палетак. На кругавідзе ўсходзіць сонца. Марка ў двух колерах: рысунак выканаы колерам сінім, поле мае светла-аранжавы колер" (Б. С., *Паштовыя маркі БНР. Сэрыя 1918 году*, „Беларус", травень 1965, № 98, с. 2.).

Адна з першых беларускіх марак, выдадзеная ў 1918 годзе: Араты.

Цікавымі зʼяўляюцца выказванні пра адну з першых беларускіх марак брытанскага калекцыянера і даследніка філатэліі Гая Пікарды: „На Вільню, як месца выдання марак (першых беларускіх — Л.К.), паказвае таксама і марка з аратым. Аўтарам рысунку яе мог быць адзін з найбольш таленавітых мастакоў Фердынанд Рушчыц (1870-1936), які паходзіў з Багданава на Валожыншчыне з каталіцкае сямʼі і ўважаў сябе за «тутэйшага»".

Ёсць яшчэ адна крыніца гэтай думкі: „Рушчыц у сваёй творчасці шмат увагі прысвячаў тэмам зямлі і вясковага быту. Імя Рушчыца фігуруе ў каталогах свету, як рысавальніка паштовых марак. Нарысаваная ім марка для эфемернай дзяржавы «Сярэдняй Літвы» (1922 г.), арганізаванае польскім генералам Жалігоўскім, вельмі нагадвае БНРаўскую марку з аратым 1918 году" („Спадчына", 1990, ą 4, с. 71).

За сваю нястомную дзейнасць Фердынанд Рушчыц стаў адным з першых лаўрэатаў узнагароды горада Вільні, атрымаў Камандорскі крыж Ордэна Адраджэння Польшчы (2 мая 1923), Залаты Крыж Заслугі (1928), атрымаў у Парыжы (1921) Ордэн Ганаровага легіёна за дасягненні ў мастацтве, з Іспаніі яму быў прысланы Ордэн Ізабэлы Каталіцкай, з Партугаліі — Ордэн Святога Якава за падтрымку хрысціянскай духоўнасці. Нарэшце, ён быў прызнаны ўрадам Рэчы Паспалітай ганаровым прафесарам Віленскага ўніверсітэта (1935).



У 1994 годзе поштай Беларусі выпушчана была марка, прысвечаная Фердынанду Рушчыцу. На марцы партрэт мастака і яго карціна „Зямля".

У 1995 годзе з нагоды 125-годдзя з дня нараджэння на марцы з 1994 году зроблена надпячатка тэксту „1995 125 гадоў з дня нараджэння".



У 2002 годзе поштай Беларусі выпушчана марка з рэпрадукцыяй карціны Фердынанда Рушчыца „Каля касцёла".

Карціна „Каля касцёла" захоўваецца ў фондах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

**Лявон КАРПОВІЧ**
**Луна-Воля**

# Такой падзеі ўжо не пабачу

Пра свой выезд і прысутнасць на Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў у Паўночнай Карэі расказвае **Марк ХМЯЛЕЎСКІ**, 1964 года нараджэння, зараз солтыс, радны і грамадскі арлянскі дзеяч.

**— Якія былі пачаткі Вашай грамадскай дзейнасці? Як Вы трапілі ў Паўночную Карэю, якія адтуль уражанні?**

— 18 кастрычніка 1987 года выйшаў з войска, а тыдзень пасля, 25 кастрычніка, ажаніўся з мясцовай дзяўчынай Ёляй Назарэвіч, якая два гады раней праводзіла мяне ў салдаты. Раз — пажаніліся і па справе.

2 лістапада сталі на працу. Жонка ў мясцовым асяродку здароўя, а я стаў інструктарам у ЗСЛ (Zjednoczone Stronnictwo Ludowe). Праз нейкі час стаў сакратаром. Я, малады хлапец, 23-24 гады, акунуўся ў моладзевае асяроддзе. І па традыцыі быў адначасна і членам ЗСМП (Związek Socjalistycznej Młodzieży Polskiej). У ЗСЛ намовіў мяне калега Юрык Весялоўскі, бо калі б не ён, то я астаўся б у войску кадравым ваенным. На гміннага старшыню ЗСМП выбралі мы Лену Пасечнік; і мы дзейнічалі ў адным бюро.

12 кастрычніка 1988 года нарадзіўся мне першы сын Пётр і недзе каля паўтара месяца пасля — я акурат заняты быў пялёнкамі — уваходзіць у мой дом ваяводскі прэзас ЗСЛ з двума іншымі. Я падумаў, што нешта праваліў, а яны: „Мы прыехалі павіншаваць сына", з каньяком. Жонка, пасля кесарава сячэння, нарыхтавала закуску. А яны: „Мы прыехалі да калегі з такой прапановай: набліжаюцца ваяводскія выбары, справаздачна-выбарны з'езд ЗСМП. Калега ў ліку дэлегатаў і мы хочам даць рэкамендацыю са стараны ЗСЛ на віцэ-старшыню ЗСМП. А гэта абазначае, што цягам трох месяцаў атрымаеце М-5, службовы аўтамабіль для працы і пачняце юрыдычныя штудыі".

Мы з жонкай сядзімо быццам хто нам абухом па галаве даў. І кажу: „Калі так калегі прапануюць, то я згаджаюся".

І недзе ў снежні, у Доме партыі ў Беластоку з'язджаюцца. Але хутка нейкая нарада, нешта ў Варшаве дзеецца, нейкае замяшанне. І кажуць мне: „Марк, не хочам цябе крыўдзіць, не будзе штата віцэшэфа, то будзеш загадчыкам аддзела па справах вясковай моладзі, будзе патранацкая кватэра". А я на гэта: „Не — буду віцэ-старшынёй ваяводскай арганізацыі ЗСМП па справах вясковай моладзі на грамадскіх прынцыпах". Давалі мне нейкія камандзіровачныя. Але гэта ўжо 1988 год быў, надыходзілі перамены.

Трэба з чагось жыць. То я еду з клункамі ў Венгрыю. Вяртаюся. У Беластоку сустракаю нашу Ленку, а яна: „О-о-о, наш карэец!" Я пра нішто не ведаў. А ў маю адсутнасць яна аформіла ўсе справы. Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў у Паўночнай Карэі, папярэдні быў на Кубе. (31.07-14.08.1955 года быў і ў Варшаве — М. М.) З цэнтра прыйшло рашэнне, што з Беластоцкага ваяводства паедзе дзве асобы: гарцэр і земляроб. А я — выпускнік сельскагаспадарчага тэхнікума. Красавік 1989 года, не надта весела. І так я трапіў у каманду на Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў у Паўночнай Карэі — Пхеньян-89.

Склікалі нас у Варшаву, на абучэнне, амаль на месяц. Вучылі нас як трымаць сябе, як не зняважыць... Патрымалі месяц і яшчэ пусцілі нас дадому, развітацца з раднёй. Пазычыў я 300 долараў спадзяючыся нешта купіць. Касцюмы трэба было купіць самому.

Падставілі турыстычны аўтобус. Быў такі Войтэк з Пазнаньскага, меў старую валізку, якую не дазволілі пакінуць у багажніку. Адкрыў яе ў аўтобусе, а там былі



кашуля, дзве пары шкарпэтак, трусы і самагонка. Такую „сякеру" выгнаў, што мы не змаглі тае бутэлькі выпіць.

У Паўночную Карэю з Польшчы ляцелі тры самалёты; гэта быў мой першы палёт у жыцці, так як і ў іншых. Калі селі ў самалёт, то яшчэ напіліся; так было. Я сеў у канцы салона, рухавік гудзе. Да пасажыраў пад'язджае сцюардэса са столікам — то ўзялі яшчэ па чарцы алкаголю.

Ляцімо. Ноч, пад намі то многа святла, то зусім няма. На маскоўскім аэрадроме запраўка, мы, пасажыры, выселі, нас акружылі службоўцы з вінтоўкамі, нікуды нас не пускаюць, а навокал жара. Пякліся так дзве гадзіны і назад у самалёт.

Прыляцелі ў тую Карэю, чырвоныя дываны. Пад'язджае пяць навюткіх турыстычных аўтобусаў маркі „Мерседэс", а апошнія ўсе старыя, з ваеннага часу. Завезлі нас, закватаравалі, нармальныя кватэры.

Годам раней была алімпіяда ў Сеуле і Кім Ір Сен спадзяваўся, што алімпіяду падзеляць і частка спаборніцтваў адбудзецца ў яго. І пабудавалі многа спартыўных аб'ектаў, інфраструктуру. Набудавалі, але ўсяго яшчэ не завяршылі. А ўлюбёны быў Кім Чэн Ір; абодвух я бачыў.

Такой прапаганды як у Карэі, то я не бачыў. Якіясь малюнкі правадыра, прапаганда, усе аднолькава апранутыя — тры фасоны сукенак, але ўсе ў адзін колер. Народ маленькі, худзенькі, недакормлены. Мы пры іх выглядалі як бамбізы.

Маім праваднікам быў нейкі Ян Е Лі, быў у парваных кедах. І да апошняга дня не выпіў са мною ні кілішка. Вадзіў мяне. Быў выпускніком інстытута замежных моў, ведаў рускую мову. І прызначылі яго мне, каб я добра адчуваў сябе.

Цэлая краіна аддала ўсе свае самаходы ў наша распараджэнне. Пасажырскія аўтобусы старыя, з 1950-х гадоў. Адмалявалі пэндзлямі і аддалі нам, а самі на вайсковыя грузавікі. Але ў Пхеньяне тады ўжо было метро, пра якое ў Варшаве толькі марылі. І маглі мы ім карыстацца, бо мелі дармовыя праезды гарадской камунікацыяй.

Пхеньян нагадваў мне Бельск-Падляшскі пачатку 1970-х гадоў, дзе многа зелені і нізкія будынкі. У вокнах кватэр не было штораў і калі ўключалі святло, то ўсюды было відаць партрэты Кім Чэн Іра і Кім Ір Сена.

Я з адным рэдактарам з іркуцкай моладзевай газеты ўзялі газік з вадзіцелем і перакладчыкам ды паехалі на пляж. Пляж прыгожы, пусты. Бачыў таксама тую гранічную з Паўднёвай Карэяй паралель. Усё гэта дзякуючы таму рэдактару з Расіі, бо ён меў больш павbooжання.

З тым рэдактарам трапілі крыху па-за Пхеньян, у вёску. Там сапраўды бедна, сціпла, але чысцютка, прыбранае, вымеценае, быццам перанесліся ў XIX стагоддзе.

Я да канца не цяміў, у чым там справа, навошта тыя агромныя малюнкі правадыра на сценах будынкаў. Мы стараліся не смяяцца з таго, не зняважаць.

Валюта? Там было тры катэгорыі вонаў. Белыя воны прызначаліся мясцовым людзям, сінія — капіталістам, а чырвоныя „дэмалюдам". І былі абменнікі валюты, такія „пэвэксы".

Тыя з Захаду мянялі долары на чырвоныя воны. Курсы былі розныя — у гадавіну нараджэння Кім Ір Сена аб'явіў ён зраўнанне валют. То ўсе працаўнікі амбасад кінуліся на наша мястэчка, дзе былі такія кантэйнерныя рыначкі, а ў іх шмат як на той час электронікі — відэакамеры... І яны ўсё гэта раскупілі. Я свайму сыну Пётрусю купіў калейку і „вадалаза".

Фестываль? Запісаўся ў спартыўную секцыю, каб не мяшацца ў палітыку. І на інаўгурацыю ішло сорак асоб спартыўнай секцыі. Такая шумлівая паказуха. Сорак тысяч карэйцаў прадстаўляла жывыя карціны, гэтага не апісаць. Такіх рэчаў ніхто не робіць.

Выходзім на той стадыён, а перад тэлевізарамі цэлая Польшча, цэлая Орля аглядае. Такі быў час! Другая перадача была на яхце „Завіша Чарны", які таксама завітаў у Карэю. Быў там Аляксандр Кваснеўскі, які быў міністрам па справах моладзі і спорту. Былі мы там на дыскатэцы. І тую перадачу ў тэлебачанні я аглядаў ужо пасля вяртання.

На фестывалі былі госці з Афрыкі, Кубы, Мексікі. ЗША прадстаўляла толькі адна асоба, студэнтка, карэйка, але з амерыканскім грамадзянствам. То яе мясцовыя карэйцы на руках насілі, і то літаральна, бо калі быў забег міру на 1 кіламетр, у жару, то яе карэйцы падхапілі і перабеглі з ёй на руках усю дыстанцыю. Бо найбольшым іх ворагам — Злучаныя Штаты Амерыкі.

Удзел у фестывалі ўспамінаю як нейкую прыгоду ўсяго жыцця. Я таго не разумеў, не ўглыбляўся ў палітычную сітуацыю, бо не было нават як. Быў гэта культурны шок — тое, што пабачыў, паспрабаваў. Я карыстаўся выпадкам, бо мог сабе дазволіць на рэстаран, кантакт з моладдзю, напрыклад, танцы з кубінкай, мексіканкай. Бачыў там такія мерапрыемствы, што аж дух пераводзіла. Гадавіна нараджэння Кім Ір Сена — шэсць гадзін самых разнастайных феерверкаў. Такога ў жыцці не бачыў і не пабачу. Там зіхацела ўсё, мільёны людзей. Узлятае ракета і паказваецца карціна...

Помню пікет нямецкіх студэнтаў. Адбывалася гэта пасля падзей у Кітаі на пекінскай Плошчы нябеснага спакою, дзе раз'ехалі танкамі пратэстуючых студэнтаў. То мы пікетавалі з заходнеберлінскімі студэнтамі. Я гэта не вельмі разумеў, але нейкую шыльдачку атрымаў і туды-сюды махаў. Піўцо выпілі, транспарантамі патраслі і ўсё. Моладасць кіруецца тым, што ты непаслухмяны, схільны да рэвалюцыі, хацця і не ведаеш у чым справа. Ці я ведаў тады як выглядае дэмакратыя, маючы 24 гады?

З Беластоцкага ездзіла яшчэ адна дзяўчына — гарцэрка з Беластока. Быў яшчэ такі прафесар Савіцкі, якога бацька паходзіў з Рыбал...

Калі вярталіся, то я ўжо сядзеў у бізнес-класе, разам з Аляксандрам Кваснеўскім, пакойным Ежым Шмайдзінскім — быў шэфам ЗСМП. Ну і „Высоцкі", значыць я. Меў я мянушку „Высоцкі", бо меў гітару і ведаў шмат ягоных песень. То я там „роў" стольki дзён... Быў спявак з гурта „Pod Budą" і іншыя.

Калі мы ляцелі назад, то ўжо не выСаджваліся на маскоўскім аэрадроме. З Карэі ляцелі дванаццаць гадзін, то я думаў што здурэю.

Я быў так усхваляваны тым фестывалем, што не маю ніводнага здымка. Было шмат сувеніраў, то дзеці панішчылі. Але маю карэйскую візу і паштоўку ад Ян Е Лі — майго апекуна. Бо тыя кеды трэба было яму выслаць. Купіў тут дзесяць пар, але не ведаю, ці дайшлі да адрасата. Можа яго пасадзілі за тыя кеды...

У 1990 годзе адбыліся ў Польшчы першыя дэмакратычныя выбары. Балатаваўся і стаў радным Гміннай рады ў Орлі.

**— Дзякую за размову.**

Спытаў, запісаў і сфатаграфаваў
Міхал МІНЦЭВІЧ

Знакамітасці памежжа

# ТРАПЯТКАЯ ДУША МАСТАКА...

З Дзмітровічамі цесна звязаны лёс Васіля Жуковіча — паэта, празаіка, перакладчыка, публіцыста, аўтара сарака выданняў (дарэчы 17 студзеня бягучага года ён быў удастоены звання „Ганаровы грамадзянін Камянецкага раёна").

Нарадзіўся наш зямляк 80 год таму ў Забалоцці.

„Маё Забалоцце — гэта не вёска, а паселішча хутароў у адным з заходніх раёнаў Беларусі. Не шукайце гэтага кутка на зямлі: няма ўжо нават балота, якое аддзяляла хутары ад сяла Дзяніскавічы (Дзмітровічы — Т. Л.).

Скончыўшы Дзмітровіцкую дзесяцігодку, падаўся ў Брэст, дзе неўзабаве стаў студэнтам філалагічнага факультэта Педагагічнага інстытута.

Падрабязнае апісанне яго студэнцкага (і не толькі) жыцця знайшла ў ягонай аповесці „Як адна вясна...". Чытаючы старонкі твора, без цяжкасці за незнаёмымі прозвішчамі ўзгадала сапраўдныя імёны: Міша Тачыла (Міхась Тычына), Валодзя Ражэвіч (Васіль Жуковіч), Павел Панчук (Пётр Пінчук), куратар Андрэй Андрэевіч Калеснік (Уладзімір Андрэевіч Калеснік) і г.д.



Васіль ужо ў студэнцкія гады пісаў вершы, якія час ад часу друкаваліся ў асобных выданнях.

*У аўтобусе еду,*
*а побач — дзяўчына адна.*
*„Прыгажуня! Хаця б*
*не паспела сысці..."*
*Што таіць — даспадобы яна.*
*Закрануць — не хапае смеласці.*
*Ну а тут, як на зло,*
*пазірае народ,*
*Як на зло тут — прамая вуліца...*
*Эй, шафёр, дай круты паварот —*
*І дзяўчына сама прытуліцца.*

Мы разам выпускалі факультэцкую насценгазету і займаліся ў адных і тых жа выкладчыкаў. А ўсе дзяўчаты з затоенай зайздрасцю назіралі за нараджэннем вялікага пачуцця, якое на нашых вачах узнікала паміж Васілём і яго абранніцай Верай — таксама студэнткай нашага інстытута. (Дарэчы, яны разам ужо больш за паўстагоддзя).

Пасля заканчэння вучобы Жуковіч працаваў у рэдакцыі газеты „Зара над Бугам" і на мясцовай студыі тэлебачання. А ў 1972 годзе, згадзіўшыся на прапанову пераехаць у Мінск, стала жыве і працуе ў сталіцы дагэтуль.

Адзін за адным выходзяць зборнікі паэта. У іх не толькі вершы, але эпітафіі і эпіграфы, прыпавесці і байкі, казкі і п'есы.

Вядомы ён і як перакладчык, і як аўтар кніг для дзяцей. Працуючы працяглы час у Мінску, пісьменнік не парывае сувязі з малой радзімай. Замілаванне родным краем знайшло сваё адлюстраванне ў вершах, прысвечаных Камянеччыне: „Рэчка Лясная", „Дарога ў жыцце", „Вёска Радасць" і інш.

*Не прыцьміць*
*старонка мне другая*
*нашых краявідаў і дарог.*
*І цябе, сямейка дарагая,*
*дзе б ні быў я, у сэрцы я бярог.*

Па-ранейшаму Жуковіч удзячны свайму настаўніку, крытыку і дарадцу Уладзіміру Калесніку, які першым убачыў у сарамлівым юнаку парасткі сапраўднага таленту: „Жуковіч — паэт рэдкай маральнай чысціні, тонкі знаўца дабра і зла, красы і цнатлівасці. Паэзія і адукацыя вытанчылі і без таго чулае сэрца паэта, зрабілі такім уважлівым, што нават птушкі пачалі злятацца да яго і расказваць пра свае выраі, а кветкі на родным лузе сталі дзяліцца з ім спалохамі веснавога абуджэння і восеньскім сумам".

Сёння Васіль Жуковіч аддае перавагу гумарыстычнаму слову: прыказкі, прымаўкі, народныя казанні з салёным „агеньчыкам" нацыянальнай афарбоўкі. Наступная кніга паэта „Боль і вера, і любоў" блізкая да завяршэння, сваёй выхаду ў свет чакае і зборнік апавяданняў „Ласкавае сонейка".

Вось такі ён — неўтаймаваны лірык, які шчыра дзеліцца сваім жыццёвым вопытам з чытачамі.

**Тамара ЛАЎРАНЧУК**




## https://belaruscanada.org

Пра інтэрнэт-прадстаўніцтва беларускай дыяспары Канады „Ніва" пісала вельмі даўно, ажно ў снежні 2005 года. Тады хадзіла пра сайт, што месціўся па адрасе **https://www.belaruscanada.com**. Калі ўзгадаць той артыкул, то паводле яго сайт Згуртавання беларусаў Канады выглядаў даволі сціпла. Напрыклад, ілюстрацый там амаль не было. Затое было шмат тэксту, які тычыўся жыцця канадскіх беларусаў і дзейнасці іх суполак.

Цяпер гэтага сайта ўжо няма. Па яго адрасе месціцца інфармацыя на японскай мове, якая ніякім чынам не тычыцца Згуртавання беларусаў Канады. Але без прадстаўніцтва ў інтэрнэце нашы канадскія суродзічы не засталіся, бо ўжо амаль дзесяць гадоў, а дакладней са снежня 2010 года, яны маюць амаль аналагічны сайт, які цяпер знаходзіцца па адрасе https://belaruscanada.org.

Па вялікім рахунку, цяперашні сайт Згуртавання беларусаў Канады гэта хутчэй блог на платформе Wordpress. Там няма звычайных для сайта рубрык, а каб прачытаць самыя першыя па часе паведамленні, трэба вельмі доўга круціць колка камп'ютарнай мышкі. І калі дабярэшся да іх, то зразумееш, што стала прычынай з'яўлення сайта, а значыць і аднаўлення прадстаўніцтва Згуртавання ў інтэрнэце, якое на непрацяглы час перарвалася разам з заняпадам ранейшага яго сайта. Гэта — брутальны разгон мірнай акцыі пратэсту супраць татальных фальсіфікацый падчас прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі ў снежні 2010 года.

„Мы, сябры Згуртавання беларусаў Канады, абураныя і шакаваныя хваляй гвалту, якая распачалася ў Беларусі ўвечары 19 снежня 2010 года, падчас масавага мітынгу на плошчы Незалежнасці. Увесь свет абышлі кадры відэазапісаў жорсткага збіцця мірных дэманстрантаў, у тым ліку падлеткаў, жанчын і пажылых людзей. У выніку гэтай гвалтоўнай „зачысткі" мноства людзей атрымалі траўмы, сотні чалавек былі кінутыя за краты. Выбары прэзідэнта, што адбываліся ў Беларусі 19 снежня, на вялікі жаль, не сталі пачаткам новага этапу ў гісторыі краіны. Кволыя прыкметы перадвыбарнай лібералізацыі, на якія ўскладалі столькі надзеі і жыхары Беларусі, і міжнародныя дэмакратычныя арганізацыі, аказаліся чарговым падманам", — напісалі канадскія беларусы консулу Рэспублікі Беларусь у Канадзе.

Калі праглядзець тыя паведамленні, якія размяшчаліся да гэтай пары на сайце, то варта адзначыць — беларусы Канады заўсёды не толькі цікавіліся беларускімі справамі, але і заўсёды праяўлялі неабыякавае стаўленне да іх. Не выключэннем стала і цяперашняя зараза, што распаўсюдзілася па свеце. Канадскія беларусы разумеюць, што ўлады беларускай краіны, перш за ўсё прэзідэнт Лукашэнка, праяўляюць неадэкватны і цынічны падыход да праблемы. Але беларусы гэта не толькі Лукашэнка і яго атачэнне. Таму надзея ў многім на валанцёрскія рухі, для якіх і збіраюць сродкі суайчыннікі ў Канадзе.

„Мы, беларусы Канады, знаходзімся далёка ад Радзімы, але сэрца не можа заставацца спакойным, калі мы ведаем, якая складаная сітуацыя ў Беларусі. І мы таксама можам дапамагчы фінансава! Сёння складаны час і для нас, шмат хто застаўся без працы, але нават невялікі ўнёсак будзе адчувальным і прынясе карысць!", — гаворыцца ў паведамленні ад 10 красавіка.

**Аляксандр ЯКІМЮК**



Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара

## 115 гадоў з дня нараджэння Нічыпара МЯЦЕЛЬСКАГА

Дакладная дата ўдзельніка беларускага патрыятычнага руху Нічыпара Мяцельскага невядомая. Нарадзіўся ён у 1905 г. у вёсцы Ануфравічы (цяпер у Грэскім сельсавеце Слуцкага раёна).

Вядома, што Нічыпар Мяцельскі ў 1924 г. браў удзел у падпольнай антыбальшавіцкай арганізацыі Юркі Лістапада. Быў арыштаваны ўвосень 1925 г. На лаве падсудных апынуліся пяць маладзёнаў (Міхал Дземідовіч, Міхал Макарэня, Нічыпар Мяцельскі, Ціт Курбыка, Мікалай Казак), якія нібыта належалі да нелегальнай антысавецкай арганізацыі, а таксама іх настаўнік Юрка Лістапад, былы ўдзельнік Слуцкага паўстання. Ад яго прозвішча і пайшла назва працэсу: у тагачаснай савецкай прэсе яго гучна называлі „лістападаўшчынай". Насамрэч нічога крымінальнага хлопцы не рабілі: чыталі кніжкі, пісалі патрыятычныя вершы. Але іх вінавацілі ў друкаванні і распаўсюдзе антысавецкай літаратуры, падрыхтоўцы збройнага паўстання, планаванні ў змове з „буржуазнаю Польшчаю" адарваць БССР ад Савецкага Саюза. „Доказамі" былі некалькі нумароў рукапіснага часопіса „Наша слова", выдаванага літаратурным гуртком на курсах. Творы часопісаў, — вершы, апавяданні, — наіўныя, аматарскія, але прасякнутыя шчырым замілаваннем да Беларусі. Аднак у мінскім ГПУ ведалі, што насамрэч хлопцы займаюцца не толькі літаратурнымі практыкаваннямі, але і клеяць іх вынікі на слупах у Слуцку. Былі праведзены ператрусы не толькі ў фігурантаў справы, але і ў Якуба Коласа, які быў асабіста знаёмы з Нічыпарам Мяцельскім. Падчас перапрусу ў Коласавай хаце быў знойдзены верш Мяцельскага „Дзе", які і паслужыў асновай для абвінавачванняў. На допытах Якуб Колас не сказаў нічога лішняга. А справа „лістападаўцаў" была на самым высокім кантролі ў Маскве. Яшчэ 28 студзеня 1926 г. адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ВКП(б), на якім разглядалася пытанне „Об открытой в Белоруссии подпольной контрреволюционной организации". Сябры палітбюро прынялі шэраг прапаноў тагачаснага намесніка наркама юстыцыі РСФСР Мікалая Крыленкі, сярод якіх была і наступная: „Приговор, ввиду молодости членов группы и неопытности их — должен быть не выше 3-5 лет тюрьмы". Пратакол пасяджэння падпісаны быў Сталіным. Па выніках судовай справы, якая скончылася 18 сакавіка 1926 г., хлопцы атрымалі адносна невялікія турэмныя тэрміны. Адбывалі іх у мінскай турме.

Пасля вызвалення Мяцельскі працаваў настаўнікам у вёсцы Цітва пад Рудзенскам, дзе застаўся і пры нямецкіх акупантах. На пачатку 1943 г. мінская „Беларуская газета" неабачліва надрукавала артыкул Рыгора Крушыны „З мінулых дзён. Судовы працэс над Лістападам", дзе ўзгадваўся і Мяцельскі як прыхільнік арганізацыі беларускіх ваенных аддзелаў і стварэння нацыянальнага ўрада. У выніку гэтага Мяцельскі быў схоплены савецкімі партызанамі 2-й Мінскай брыгады (камандзір С. Іваноў), на допыце звінавачаны ў аднаўленні контррэвалюцыйнай дзейнасці і прыналежнасці да мясцовай суполкі Беларускай незалежніцкай партыі і ў сувязях з былымі лістападаўцамі. Нічыпар, які мог разам з сябрамі належаць да мясцовай суполкі Беларускай незалежніцкай партыі, адмовіўся называць якія-небудзь імёны. Пасля гэтага Мяцельскага расстралялі. Здарылася гэта 6 красавіка 1943 г. у ваколіцах Рудзенска (цяперашні Пухавіцкі раён). Месца, дзе закапалі цела, невядомае. Памяць пра Нічыпара Мяцельскага не ўшанаваная.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

1 ☞ працяг

месяцаў пазней, таксама ва 88-гадовым узросце. Звыш месяц пазней у дарожнай аварыі на скрыжаванні дарог Гайнаўка — Бельск-Падляшскі і Новаберазова — Дубічы-Асочныя загінулі дзве родныя сястры жонкі майго хроснага бацькі, родам з Новаберазова. У канцы мінулага года ў 98-гадовым узросце памёр бацька жанчын пацярпеўшых у згаданай аварыі. У канцы мінулага года памёр таксама бацька маіх сяброў, які дажыў да падобнага ўзросту, што і мой бацька. Вясной мінулага года ў 90-гадовым узросце памёр бацька маёй сяброўкі. Тут крыху затрымаюся, паколькі дзядзька Мікола да апошніх дзён свайго жыцця яшчэ гаспадарыў. Толькі год перад смерцю перастаў малаціць збожжа, ездзячы на ўласным камбайне. Аднак да канца абрабляў ён сваё поле, працуючы на трактары і перад самай смерцю выконваў яшчэ сельскагаспадарчыя працы ў полі. Мая цётка Марыя, бацькава сястра, праз некалькі дзён была найстарэйшай жыхаркай Новаберазова і ў пачатку гэтага года памерла ў 96-гадовым узросце. Тут я апісаў смерць найстарэйшых жыхароў Новаберазова, якія паміралі ў апошнім часе адзін па другім. Аднак раней паміралі таксама намнога маладшыя людзі. Няма ўжо ў жывых пяці маіх сяброў, якія вучыліся са мной у адным класе ў Пачатковай школе ў Новаберазове: Уладзіміра, Яна, Славаміра, Яраслава і Лявона з Чыжык, Новаберазова і Шастакова. На новаберазоўскіх могілках пакоіцца многа іншых маладых асоб. Мясцовыя асабліва ўспамінаюць малых дзетак з Хітрай, якія згарэлі ў час пажару дома і пахаваныя на гэтых могілках.

— Калі твая цётка Марыя памерла, я зараз найстарэйшая жыхарка Новаберазова сярод жанчын і толькі Антоша старэйшы за мяне, — сказала мне нядаўна сяброўка майго бацькі з дзяцінства Марыя Аўласюк.

Хутка пасля гэтай размовы памёр дзядзька Антон. Хаця зараз цёткі Марыі Аўласюк звыш 90 гадоў, да размовы са мной спявала ў царкоўным хоры, таксама ў час выязных яго выступаў. У яе станоўчы падыход да жыцця, якое прадаўжаецца ў адносна добрым здароўі. Аднак калі ўведзена была забарона збірацца ў царкве на малітвах больш чым пяці вернікам, дастасавалася цётка Марыя да ўказанняў і не пайшла спяваць у час нядзельнай літургіі.

— Зараз у Новаберазове пуста. Людзі ў галоўным займаюцца ў дамах і таму на панадворках меншая актыўнасць жыхароў. Лекар і медсястра працуюць у зачыненым асяродку здароўя і праводзяць кансультацыі па тэлефоне, — сказаў жыхар Новаберазова. Аднак перад самым Вялікаднем брыгада клала ўздоўж вёскі кабель хуткага інтэрнэту, кожныя два панадворкі прабіваючыся з кабелем на другі бок дарогі. Калі жыхары вёскі ўбачылі, што рабочыя працуюць супольна і застаюцца здаровымі, можа і яны захочуць таксама папрацаваць, парадкуючы перад праваднай нядзеляй магілы сваіх продкаў. Аднак такая актыўнасць, прынамсі ў час пісання артыкула, забаронена, а прафесійная праца дазвалялася пры захаванні акрэсленых умоў.

❖ **Аляксей МАРОЗ**

## Бабpоўка калісь і цяпер

Перад меліярацыяй рэчка Бабpоўка (яна прыток Нараўкі) была натуральнай, рыбнай і цікавай. Новаляўкоўцы лавілі ў ёй плотак і шчупакоў сецямі, кломлямі і звычайнымі калыскамі, у якіх бацькі калыхалі сваіх маленькіх дзяцей. У рацэ былі глыбокія ямы. Цяпер рэчка не тая, але адраджаецца нанава.

Мяне здаўна цікавіў роў, які, між іншым, перасякае поле маіх бацькоў і ўпадае дзесьці за надрэчнымі сенажацямі ў Бабpоўку. Я ў дзяцінстве пасвіў над ім кароў. Над даволі глыбокім ровам быў масток і пад ім у 1957 годзе я лавіў рыбу. У рове на нашай пашы таксама была рыба і ракі. Хто з маладых сёння ў гэта паверыць. Мала ўжо хто ведае, што за нашай загарадай для коней на высокім беразе



рова быў суседаў вятрак, які на вялікім коле паварочвалі да ветру.

Дзе пачатак рова я даведаўся два гады таму. Аднойчы так пастанавіў і шукаў у падлешуцкім лесе. Нялёгка было ісці ў пошуках. Да яго там-сям прымыкае шмат раўчукоў, яны пераважна лясныя і ўсе з дрыгвяных невысыхаючых багнаў.

11 красавіка гэтага года я быў у вусця рова ў Бабpоўку. Рэчка мяне захапіла. Яна ў шматлікіх месцах вярнулася да папярэдняга стану. Больш натуральныя не вострыя выкапаныя пад лінейку павароты. Вярнулася вадзяная расліннасць. На берагах зацвілі лотаці. Ваду затрымалі часткова міні-плаціны (на фотаздымку адна з іх каля сядзіб жыхароў Новага Ляўкова). Побач рэчкі ёсць паўнаводныя ставы, у якіх ёсць вада нават у засуху.

Ішоў я берагам рэчкі і ўбачыў нешта незвычайнае. За мною паспешліва скакала і перад нечым жахліва ўцякала жаба. У гэты час буслоў на лузе не было. Раптам пачуў я нейкі шоргат у сухой траве і ўбачыў вужа. Гэта ён гнаўся за жабай, а тая напалоханая, ратуючыся ад небяспекі, скакала высока як магла ўгору ды хутчэй наперад, наперад. З берага яна плюснула ў ваду і ўратавалася. Вось як.

❖ Тэкст і фота
**Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — афарызм.

1. паляўнічы-прафесіянал = 38 _ 49 _ 44 _ 47 _;
2. пяць тузінаў = 15 _ 16 _ 43 _ 10 _;
3. Іван, савецкі садаўнік (1855-1935) = 32 _ 23 _ 35 _ 33 _ 18 _ 19 _ 20 _;
4. астатак ссечанага дрэва, які астаўся ў зямлі = 26 _ 7 _ 54 _ 25 _;
5. поле па зжатым збожжы = 17 _ 13 _ 12 _ 14 _ 11 _;
6. доўгі кій для падмогі пры хадзьбе = 40 _ 27 _ 22 _ 39 _ 45 _;
7. левы прыток Дняпра = 42 _ 53 _ 52 _;
8. страва, якую падаюць у глыбокай талерцы = 28 _ 48 _ 29 _;
9. адзінка школьных заняткаў = 56 _ 8 _ 41 _ 55 _;
10. невялікая рухавая рыба = 50 _ 51 _ 37 _;
11. паломніцтва ў Медыну і Мекку = 31 _ 2 _ 46 _ 34 _;
12. мука замешаная з вадкасцю = 24 _ 30 _ 3 _ 4 _ 5 _;
13. мініяцюрны электронны падвузел (*chip*) = 1 _ 36 _ 6 _;
14. возера ў Глыбоцкім раёне = 9 _ 21 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | | | | | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |
| | | | | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 |
| | | | | 39 | 40 | 41 | 42 | 43 | 44 | 45 |
| 46 | 47 | 48 | 49 | 50 | 51 | 52 | 53 | 54 | 55 | 56 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 13 нумара**

Азёры, дзяк, зад, канёк, канкан, Кант, качан, лён, Лоеў, ляда, Мележ, Мёры, рыбак, стог, язда.

Рашэнне: **Яблык на дзянёк трымае лекараў здалёк, часнок на дзянёк трымае кожнага здалёк**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:
Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

## 26.04 — 02.05

**(22.03. — 20.04.)** 26-27.04. не зрабі непапраўнай памылкі. 26.04. можаш апынуцца пад абстрэлам крытыкі. Непрыемная атмасфера на працы, а зайздрасць некаторых прынясе табе прыкрасці. Не дазволь, каб фрустрацыя і расчараванне партнёра абярнуліся супраць цябе. Асоба, якая была пакуль супраць, схіліцца да цябе.

**(21.04. — 21.05.)** 25-26.04. ажывуць старыя быццам бы забытыя болі ды раздрапаюцца незагоеныя раны. 27.04. будзеш больш кампанейскі, адкрыешся на новыя знаёмствы. 27-29.04. сямейная гармонія. 27-29.04. хтосьці, хто паціху табе зайздросціў, пакажа які з яго яры інтрыган; на шчасце табе не зашкодзіць. Добра выкарыстаеш час, ды мусіш быць паслядоўным, рашучым і ўпэўненым.

**(22.05. — 22.06.)** Няма для цябе немагчымага! 26-27.04. будзь цярплівым і асцярожна выражай. Але 27-29.04. можаш падвергнуцца стратам, калі будзеш задоўга вагацца; дробныя непаразуменні са сваякамі не павінны папсаваць табе добрага настрою. Да нейкіх спраў не бярыся паспешліва. Паправяцца твае адносіны з людзьмі, варта слухаць старэйшых і вопытных. На працы шанц здабыць лепшую пасаду; ды пільнуйся, тут можа быць хітры „гак”.

**(23.06. — 23.07.)** Афармляй важныя справы ва ўстановах; можаш нават анлайн дагаварыцца накont працы. 26-28.04. знойдзеш вырашэнне праблем, якія цябе турбавалі. 27-29.04. чакае цябе мілая сустрэча... не ўжывую. Адкрыюцца перад табой новыя магчымасці. Ды з 26 да 30.04. чамусьці будзеш маркотны. А варта прыемна, спакойна правесці гэты час.

**(24.07. — 23.08.)** 26-28.04. будзеш схільны да крайніх рэакцый — мабыць гэта ўплыў каранціну. Маеш уласную фірму — 26-27.04 можаш асцярожна падумаць пра пашырэнне дзейнасці або ўваход з кімсьці ў бліжэйшае супрацоўніцтва. Ільвы з І дэкады знакаміта адчуюць сябе ў свабоднай прафесіі або на незалежнай пасадзе; хобі можа стаць крыніцай заробку. Займайся гімнастыкай дома.

**(24.08. — 23.09.)** 26-27.04. будзеш схільны да некантраляваных рэакцый. 27-29.04. пасерфуй у інтэрнэце — хаця б такое падарожжа будзе файнае; у гэты час з-за сваёй упартасці можаш нарабіць сабе праблем. 26-28.04. думкі могуць выклікаць спрэчкі і злосць у сям'і. Калі ўжо мусіш з кімсь дзяліцца думкамі, дык лепш на інтэрнэтных форумах. Дасыць добра будзеш разбірацца ў фінансавых рашэннях пасля 27.04.

**(24.09. — 23.10.)** 26-27.04. вострыя абмен думкамі, горкія словы. 26.04. беспадстаўныя абвінавачанні. Можаш страціць галаву, але апрытомнееш да канца месяца. Парабі парадкі ў дакументах, дзякуючы гэтаму ашчадзіш час і грошы. Свабодныя Шалі маюць шанц стварыць трывалую пару. Добра ацэніш сітуацыю. Будзь шчыры ў адносінах да іншых. Цешся і дробнымі поспехамі.

**(24.10. — 22.11.)** 26.04. дробныя непаразуменні. 26-28.04. не стаў усяго на адну карту. Будзеш мець шырокае поле, каб паказацца. Распалі агонь у пары. Скарпіёны з уласным інтарэсам будуць мець добры час на рэалізацыю нетыповых і цяжкіх задач. Варта аднавіць забытыя кантакты. Прыязныя людзі і разумныя дарадчыкі. Давярай інтуіцыі. Трэніруй дома.

**(23.11. — 22.12.)** 26.04. цяжка будзе зрэалізаваць абяцанні. 26-27.04. сямейныя спрэчкі даспеюць да вырашэння; планы могуць быць лішне каштоўныя для рэалізацыі. Схадзі да лекара, парабі медабследаванні, папоўні хатнюю аптэчку. Каб пахудзець — еж, але рэгулярна. Слухай голасу сэрца, не паддавайся націскам; інтуіцыя падкажа найлепшы выхад. Не прыспешвай ходу падзей.

**(23.12. — 20.01.)** Змагайся за тое, што табе належыцца. 26.04. паразмаўляй з партнёрам пра вернасць. Але не пачынай ад абвінавачванняў і прэтэнзій. Добры час для Казярогаў, якія плануюць заснаваць свой бізнес. Адрэагуй стрэс адпачываючы. Станеш перад цяжкім выбарам; ні адзін выхад не будзе ідэальным. Пільнуйся, каб не ўблытацца ў даўгі.

**(21.01. — 19.02.)** 26-28.04. не думай пра змены працы! Не прымай няўхільных рашэнняў, каб не пачынаць пасля з нуля. 26-27.04. трэба будзе ў фірме заняцца справамі з замежжа. Будзе шанц павышэння. Пераканаешся, як выглядае твая пазіцыя ў фірме. Венера абяцае лепшыя фінансы, спадзявайся прыліву грошай. Будзеш прыкмечаны і пахвалены. Добра табе зробяць кантакты і шпацыры з жывёламі.

**(20.02. — 21.03.)** 26.04. будзеш разважаць над жыццём. 27-29.04. пільнуйся, каб не спознішся на важную сустрэчу. Магчымыя любоўныя захапленні. Не пераборшч з алкаголем і кавай. Пра важнае рашай абдумана і з блізкімі. Не купляй непатрэбшчыны. На прафесійныя прапановы глядзі крытычна. Будзеш жыць у згодзе з натурай. Не адкладвай спраў на пасля. Харошыя моманты з сям'ёй, рэгенерацыя сілы.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Прамінулі вялікадні, адзін і другі, то цяпер можна пра тое свята і без празмернага пафасу. Даведнік „Рэлігія і царква на Беларусі" з 2001 года: „Вялікдзень, вяліканне — веснавое свята старажытных славян у гонар сонца, абуджэння прыроды і надыходу вялікіх дзён палявых работ. Адсюль і назва. Падобнае свята пачатку жніва было і ў старажытных семіцкіх плямён, называлася яно *Пасха* (старажытна-яўрэйскае *passah* — праходзіць міма). З развіццём культу бога Яхве Пасху святкавалі ў гонар выходу яўрэяў з Егіпта. Потым яе сталі звязваць з чаканнем нябеснага збавіцеля — месіі. (...) Хрысціяне пераасэнсавалі Вялікдзень у свята ўваскрэсення распятага Ісуса Хрыста, якое стала галоўным хрысціянскім святам. Яму надаецца асаблівы сэнс як азнаменаванне перамогі над грахом і смерцю...".

Савецкі „Краткий научно-атеистический словарь" з 1969 года дадае: „У сівую даўніну яўрэі, будучы яшчэ вандроўнымі жывёлаводчымі плямёнамі, святкавалі Пасху ў сувязі з веснавым цяленнем жывёлы, пры гэтым прыносілі ягнятка ў ахвяру духам пустыні і паш. З іх пераходам у аселасць і развіццём у іх земляробства, свята жывёлаводаў зілося са святам пачатку жатвы, якое ладзілася ў першую поўню пасля веснавога раўнадзенства. Традыцыя прыгатавання мацы — праснакоў, выпяканых веруючымі яўрэямі пад Пасху, выходзіць з выпякання прэсных блінчыкаў са змолатай з першага зерня новага ўраджаю мукі...".

Яўрэйская энцыклапедыя Брокхаўза і Эфрана з пачатку XX стагоддзя не сягае так далёка. У ёй прызнаецца, што Пасха была спачатку святам аграрным — пачатку жатвы. Жатва ячменю ў Іарданскай даліне пачыналася ў пачатку красавіка; пшаніца спела два-тры тыдні пазней. Ячмень быў ежай бедных, а паколькі ён не даваў порыстага цеста, то з яго гатовілі менавіта праснакі. Пазней Пасха, пад уплывам мацуючайся рэлігіі, набрала рэлігійнага значэння. Яе ідэйна прымеркавалі да выхаду яўрэяў з Егіпта. Паводле Бібліі, перад уцёкамі адтуль яўрэяў Бог цераз прарокаў загадаў кожнай сям'і зарэзаць ягнятка і яго крывёй памазаць дзверы, каб было ведама, якія памяшканні мае мінаваць пакаранне. А спечанае мяса ягнятка трэба было ў тую ноч з'есці з праснакамі, бо ў спешцы не было часу заквасіць цеста...

І так Пасха, па-яўрэйску Пейсах, апынулася ў тройцы найважнейшых яўрэйскіх свят са строгім рытуалам, званым седарам. Гэта не толькі абрадавая сямейная трапеза, гэта таксама свайго роду навучанне. Гэты абрад прывязаны менавіта да выхаду яўрэяў з Егіпта. Абавязкова трэба было расказваць дзецям біблейскую гісторыю, мела быць прэсная маца; нельга было ў час гэтага свята есці нічога квашанага, згодна з біблейскім загадам: „Хай будзе вам дзень гэты памятны, святкуйце тое свята Госпаду, усе пакаленні вашы, як навек устаноўленае святкуйце яго. Сем дзён ежце прэсны хлеб; з першага дня зліквідуйце квашанае ў дамах вашых, хто будзе есці квашанае з першага па сёмы дзень, таго душа будзе зніштожана з асяроддзя Ізраіля..." (Выхад, 12: 14-15.) У час пасхальнай трапезы кожны ж удзельнік павінен выпіць чатыры бакалы віна. Але нельга было ўпівацца...

Можа каго здзіўляць прадпісанне такой колькасці алкаголю. Аднак віно было з незапамятных часоў не толькі трапезным, але і сакральным напіткам. Настаўнікамі яўрэяў у вінаробстве былі палесцінскія аўтахтоны. Паводле Бібліі вінаробства вядзе свой пачатак ад Ноя, які лічыцца прашчурам палесцінцаў. У Палесціне амаль кожны лапік зямлі прызначаўся пад вінаграднік. Ліванскае віно хваліў прарок Осія. Збор пладоў вінаграду суправаджаўся вясёлымі гульнямі, пра што згадвалі прарокі Ісая і Іеремія. Іншыя яўрэйскія мудрацы гаварылі:




„Найважнейшы з усіх гаючых сродкаў — віно; там дзе няма віна, патрэбныя лякарствы".

Так вось вінаробства было важнай дзялянкай земляробчай дзейнасці жыхароў Блізкага Усходу. Ды не толькі, таксама ж ведама, што гэтай справай займаліся і іншыя насельнікі басейна Міжземнага мора; у старажытных грэкаў клапаціўся пра гэта ведамственны бог Дыянісій, а ў рымлян Вакх. Там таксама ладзіліся гучныя святкаванні ў гонар гэтых багоў — дыянісіі і вакханаліі. Старажытны грэчаскі гісторык Плутарх меркаваў, што і яўрэйскае свята Кучкі з'яўлецца святам у гонар Дыянісія: „Яўрэі святкуюць сваё найважнейшае свята ў пару збору вінаграду — яны нагрувашчваюць на сваіх сталах усялякія плады і жывуць у палатках і шатрах, зробленых пераважна з вінаграднага голля і плюшчу...".

У нашы землі тайны ферментацыі з'явіліся, мабыць, яшчэ да з'яўлення тут яўрэяў, аднак калі яны сюды з'явіліся, шпарка бралі гэтыя справы ў свае рукі. А спрыялі гэтаму нашы ўладары. Зыгмунт Глогер: „У часах малой адукаванасці стаўлялі пры кожнай карчме вяху ў знак прадаваных у тым доме напіткаў, а менавіта мёду і піва. (...) У XV стагоддзі да мёду і піва прыбавілася гарэлка, а ў XVII стагоддзі стала шляхта здаваць корчмы ў арэнду жыдам, чым спачатку вельмі абураліся, пакуль у саксонскую эпоху не стала гэта паўсюдным...".

Як паведамляе «Энцыклапедыя Вялікага Княства Літоўскага», корчмы падзяляліся на заезныя (тыпу гасцініцы) і шынковыя (тыпу харчэўні). Корчмы ставілі пры дарозе, каля перавозу, мосту, броду, млына, у гарадах — на гандлёвых плошчах. У сярэдзіне XVIII стагоддзя корчмы былі амаль у кожнай вёсцы; у гарадах было тры-чатыры і больш корчмаў. Вялікія корчмы ў гарадах называліся аўстэрыямі. З пашырэннем права прапінацыі — вырабу і продажы моцных спіртных напіткаў — большасць корчмаў апынулася ў руках шляхты, якая звычайна здавала іх у арэнду (у XVIII стагоддзі арандатарамі найчасцей былі яўрэі). Праз арандатараў пан прымусова збываў у карчме сялянам прадукцыю свайго бровара. Даходы ад здачы ў арэнду карчмы дасягалі часам палавіны ўсіх панскіх прыбыткаў. Корчмы наведвалі сяляне, рамесны і гандлёвы люд, служылыя людзі, чыноўнікі, інтэлігенцыя, духоўныя асобы, вандроўнікі, пілігрымы, жабракі. Карчма выконвала шырокія сацыяльныя функцыі, у тым ліку інфармацыйныя, культурныя і псіхалагічныя. Сюды збіраліся на адпачынак сяляне, тут яны ладзілі забавы. У карчме гучала шмат навін, чуток, плётак; тут можна было пагаварыць ці проста выгаварыцца...

Зыгмунт Глогер: „Гарэлка, у XIV стагоддзі вынайдзена ў Германіі, званая *aqua vitae*, аквавітай — вадой жыцця, бо мела прадаўжаць жыццё; з Германіі яе спажыванне пашырылася на Польшчу. (...) У Польшчы былі вядомыя гарэлкі: аламбікавая, шумоўка, і ад розных спецый: карэнная, лаканосавая, цынамонавая, *форт* — гатунак гарэлкі з траўкай, кменавая, персікавая з зярнят, палыноўка, анісоўка, белатутавая, гваздзіковая, цытваровая, кардыбанавая, на аер наліваная і на ландыш. Завозілі гарэлкі італьянскія, французскія, гданьскія, ромы і аракі. Калі гарэлкі сталі запраўляць цукрам, паўсталі заваркі і лікёры размаітых гатункаў: персікавыя, ананасавыя, мятныя, ружавыя, кававыя, памаранчавыя, вішнёвыя — значыць ратафіі, гольдвасеры. Пры Аўгусце III чарка ратафіі і крамбамбулі каштавала па тынфе. Гарэлкі розных гатункаў былі першаасновай дамашняй аптэчкі, дзе былі пад ключом ямосціным, а ў большых дамах пад наглядам і ключом аптэчкавай панны. У шляхецкіх дамах перагонам гарэлкі цераз аламбік і прыпраў яе шчыравалі жонкі. На Літве за лікёры і прыпраўленыя гарэлкі больш цанілі чыстую жытнёўку, наліваную ў дубовыя бочкі, асабліва па віне. Багацейшыя забіралі ў падарожжа куфэрак з перагародкамі, найчасцей на чатыры, шэсць або восем пляшак на столькі ж гатункаў гарэлкі...".

Выключна гданьскім вырабам быў лікёр гольдвасер, настоены на дваццаці спецыях з дадаткам залатых пілавінак. Залатыя дадаткі мелі, паводле папулярных у XVII стагоддзі меркаванняў, узмацняць лекавое дзеянне спецый. Паводле легенды, у Гданьску паявілася была цяжкая пошасць. Аднаму з райцаў далі выпіць крыху таго напою і ён аздараве́ў. Следам за ім ад лікёру гольдвасер акрыялі ад пошасці і апошнія гараджане. У 1551 годзе наведаў Гданьск пасля сваёй каранацыі Жыгімонт Аўгуст. Улады горада абдарылі яго сваім знакавым лікёрам; пасля гаварылася, што манарх усю зваротную дарогу спяваў пахвалы адмысловаму напітку... У час свайго падарожжа на захад Еўропы Гданьск наведаў цар Пётр і гарэлка гольдвасер так яму пасмакавала, што заказаў сабе пастаянныя пастаўкі. Аматарамі гэтага пітва былі таксама французскі кароль-сонца Людвік XIV і расійская царыца Кацярына Вялікая...

Іншым гданьскім вырабам была настойка крамбамбуля. Назва напою выводзіцца са старанямецкай мовы, але гучыць вельмі па-беларуску. Таму гэтая назва прынялася ў беларусаў для абазначэння напою з гарэлкі, мёду і спецый, галоўнай з якіх ягады ядлоўцу. Назва ж пітва, якая калісь прынялася ў нямецкім жакаўскім жаргоне, выводзіцца са спалучэння старанямецкай назвы ядлоўцу *Krandewitt* і блатнай жаргоннай назвы моцнага алкаголю *Blamp*. У крамбамбулі двойчы выступае баявіты гук „б"; гэтак жа ў слове *бербелюха* — гарэлка нешляхетнай якасці. Таксама ў слове *балбатаць*, якое пасуе да артыкуляцыйнага мастацтва ўзрастаючага з ростам упойнасці на кампанейскую душу. А мой сусед, з якім мне калісь здаралася выпіваць, найчасцей узносіў тост „Ну, то — бабух!". Ну, *bebida*, як называюць пітво іспанцы, вельмі свойская з не аднаго пункту гледжання...

Слова *аламбік* зараз прызабытае, хаця сам прыбор, які гэтае слова называе, вельмі паважаны. Варта яго прыпомніць. Вікіпедыя: „Аламбік — медны перагонны куб асаблівай канструкцыі, прызначаны для дыстыляцыі спірту. Канструктыўна складаецца з кандэнсатара, шлема, трубы для адводу пары і непасрэдна перагоннага куба. У Еўропу прыйшоў з Егіпта, дзе з дапамогай аламбікаў пераганялі ваду і разнастайныя смолы з мэтай атрымання гаючых і касметычных алеяў. З развіццём у XV ст. алхіміі, у якой даволі часта выкарыстоўвался дыстыляцыя, аламбікі атрымалі больш шырокае распаўсюджанне ў Еўропе. Пазней, дзякуючы аламбікам, імкліва стала развівацца парфумерная справа. Да канца XVI ст. з-за перавытворчасці віно стала навіцца горшым па якасці і ўтрыманні алкаголю, што робіць немагчымым яго працяглы транспарт морам у краіны Паўночнай Еўропы. Для вырашэння гэтай праблемы галандцы пачынаюць устаноўку сваіх перагонных прылад і спрабуюць дыстыляваць мясцовае віно ў *brandwijn*, або *спечанае віно*, — аналаг будучага брэндзі. Да пачатку XVII ст. галандскі аламбік быў удасканалены французамі, якія пачалі эксперыментаваць з двайной перагонкай віна. Такім чынам з'явіўся новы прадукт — вінны дыстылят, які пры перавозцы морам ужо не змяняў сваёй якасці. Пазней развіццё тэхналогіі прывяло да з'яўлення каньяку. Пачынаючы з XVI ст. ва ўсіх развітых еўрапейскіх краінах пачынаюць займацца перагонкай спірту, які ў далейшым ужываецца ў якасці асновы для самых разнастайных алкагольных напояў розных смакавых якасцей. У тых зонах Еўропы, дзе вінаград не расце па якіх-небудзь прычынах, у ролі сыравіны выступае кукуруза, збожжа, бульба і нават некаторая экзатычная садавіна. У далейшым алкагольная прамысловасць стала імкліва развівацца, а самагонныя апараты станавіліся значна большымі. У залежнасці ад рэгіёнаў прымянення аламбікі маюць некаторыя тэхналагічныя і знешнія адрозненні. У XIX ст. апараты атрымалі значныя ўдасканаленні ў тэхнічным плане, за кошт чаго ўдалося павысіць не толькі ўзровень іх прадукцыйнасці, але і моц атрыманага такім чынам спірту".

Пра аламбік згадваў і Глогер у сваёй „Старапольскай энцыклапедыі" — гэта пасудзіна, якая ўжо ў пачатку XIX стагоддзя была ў кожным шляхецкім двары. Ну, і абавязкова — у корчмах, якія арандавалі яўрэі. І гэта яны займаліся вырабам спіртных напояў. Вінаград у нашым клімаце не надта адпаведны для вырабу якаснага віна для седэра, таму ў час Пасхі заміж яго пражываючым у нашым умераным клімаце яўрэям прыходзіцца спажываць гарэлку. Але яна таксама, так як і віно, павінна быць згодная з патрабаваннямі яўрэйскіх рэлігійных аўтарытэтаў. Віна, прыгатаванага неяўрэямі, яўрэям забаронена спажываць; гэтаксама і гарэлкі. На свята Пасхі яўрэям дазваляецца спажываць толькі рытуальна чыстую гарэлку, якая ад жыдоўскай назвы свята — Пейсаха — названа пейсахоўкай. Гэта моцная гарэлка, зробленая са сліў венгерак, у брагу нельга дадаваць нічога іншага, нават вады. І павінна быць выгнана ў рытуальна чыстых аламбіках і памяшканнях.

Вялікдзень — свята абуджэння прыроды, Пасха — свята яе дароў: ці то спечаных, ці прэсных, ці ферментаваных, ці дыстыляваных. Ну, то — бабух! На здароўе...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

ISSN 0546-1960
17